



Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

19 лютага 2021 года №8 (1347)

18+


# Чацвёртую дачку назвалі ў гонар Калеснікавай

## Маладзечанская сям'я расказвае пра бацькоўства і грамадзянскую пазіцыю

старонкі 20-21

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**Гальшанца судзяць за акт тэрарызму**

старонка 19

**Маладзечанка расказала, як адкрыла свой бізнес**

старонка 3

**Да Міжнароднага дня роднай мовы. Школьніца з Маладзечна расказала пра значэнне розных моў у сваім жыцці**

старонка 2

**Віляйчанку шукаюць сваякі з Вялікабрытаніі**

старонка 18

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



● 21 ЛЮТАГА – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

# Беларуская – родная, англійская – міжнародная

## Вучаніца 9 класа расказала пра тры мовы ў сваім жыцці

**Беларуская, руская і англійская… Кожная з гэтых моў адыгрывае пэўную ролю ў маім жыцці.**

### Руская мова

Руская мова – асноўная мова зносін у Беларусі. Пакуль гэта мова вучобы ў школе, шыльдаў у большасці крамаў, мова медыцыны, афіцыйных папер… Ды што там казаць, большасці сфер нашага жыцця. Па-руску размаўляе шмат маіх сяброў і сваякоў.

Руская – мова вядомых паэтаў і пісьменнікаў – Пушкіна, Лермантава, Ясеніна. Таксама гэта мова песень Віктара Цоя і блогераў, якіх мы з сястрой слухаем.

А яшчэ руская мова – адзін са школьных прадметаў. Ён таксама даецца мне нядрэнна. І ўсё ж, я лічу, што руская мова больш складаная ў правапісе.

### Англійская мова

Англійская мова – распаўсюджаная ў свеце. Яе вывучаюць амаль ва ўсіх краінах. Упершыню я пазнаёмілася з ёй у Ільянскай школе, у трэцім класе. Мне яна давалася лёгка, і я часта атрымлівала добрыя адзнакі.

Што гэта мова мне спатрэбіцца, я зразумела яшчэ ў дзевяць гадоў, калі мы з мамай былі на міжнароднай кніжнай выставе. Там я пазнаёмілася з дзяўчынкай прыкладна майго ўзросту, якая жыла ў Амерыцы. І вельмі здзівілася, бо амаль усё, што яна казала, я разумела. Канешне, час ад часу мне дапамагаў перакладчык, але і сама я магла шмат чаго ёй сказаць па-англійску.

З кожным годам патрэбу ведаць гэту мову я адчувала ўсё больш. У наш час можна сустрэць шмат сайтаў і праграм на англійскай мове, некаторыя курсы і трэнінгі таксама праходзяць на ёй. Для мяне вялікім плюсам з'яўляецца тое, што я магу глядзець англійскія фільмы яшчэ да таго, як выйдзе агучка, перакладзеная на рускую, і слухаць англійскія песні, разумеючы, пра што там ідзе размова.

Для шматлікіх прафесій трэба ведаць гэту мову. Мая мама ў школе вывучала нямецкую, і цяпер яна сама мне кажа, што ёй вельмі складана без англійскай. Маме даводзіцца адмаўляцца ад цікавых курсаў і трэнінгаў толькі таму, што там патрабуюцца веды англійскай мовы. Я, канешне, спрабую вучыць маму, але поспехі пакуль так сабе. З англійскай у жыцці лягчэй.

### Беларуская мова

Беларуская мова – родная мова. Я лічу, што яна прыгожая і нездарма займае другое па мілагучнасці месца ў свеце. Гэта мова выконвае далёка не апошнюю ролю ў маім жыцці. Чаму?

Па-першае, гэта мая родная мова, таму зусім ёй не карыстацца немагчыма. Па-другое, я ўсю пачатковую школу навучалася на беларускай мове ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаца. Я размаўляла на ёй з аднакласнікамі, з настаўнікамі, і звычайна ўсе школьныя мерапрыемствы адбываліся на беларускай мове.

Потым я пераехала ў Маладзечна. З задавальненнем і там пайшла б у беларускамоўны клас, калі б хоць адзін такі быў у гэтым горадзе. У новай школе я пачала навучацца на рускай мове. І да майго вельмі непрыемнага здзіўлення, нават гісторыя Беларусі тут выкладаецца па-руску.

Але беларуская таксама была ў маім жыцці. Мама пачала працаваць у беларускамоўнай газеце, а я пісала і пішу вершы на беларускай мове і з захапленнем чытаю і слухаю вершы беларускіх пісьменнікаў. Акрамя вершаў, я слухаю і спяваю разам з мамай беларускія песні. Па вечарах з нашай кватэры можна пачуць «Муры», «Тры чарапахі», «Вожыка-патрыёта», «Пагоню», «Аксамітны летні вечар».

Родная мова выклікае ў мяне цёплыя і прыемныя пачуцці. Кожны раз, калі я чула, што маім аднакласнікам яна не падабаецца, я вельмі сумавала. Але з цягам часу некаторыя дзеці самі пачалі размаўляць са мной па-беларуску. Дакладна ёсць два-тры чалавекі, якія падыходзяць да мяне і прапаноўваюць паразмаўляць на роднай мове.

Настаўніца беларускай мовы таксама заўважыла маю зацікаўленасць да гэтага прадмета. Яна пачала мне прапаноўваць удзелы ў розных конкурсах і даваць дадатковыя творчыя заданні, якія я з задавальненнем выконвала. Я займала першыя месцы з вершамі на роднай мове і знаёмілася з сучаснымі беларускімі пісьменнікамі – **Таццянай Атрошанкай, Міколам Шабовічам, Рагнедам Малахоўскім**.

У сям'і паміж сабой мы часта размаўляем па-беларуску.

І я спадзяюся, што прыйдзе час, калі беларуская мова будзе выконваць галоўную ролю ў жыцці кожнага з нас.




Дзевяцікласніца Юлія Ярашонак прызнае: руская, беларуская і англійская мовы адыгрываюць важную ролю ў яе жыцці. Кожная па-свойму.

**Юлія ЯРАШОНАК, 14 год, Маладзечна.**

# Як дадаць беларускую раскладку на камп'ютар або тэлефон

**Магчыма, вы не ведалі, але магчымасць пісаць тэкст па-беларуску ёсць на кожным камп'ютары або ноўтбуку і на абсалютнай большасці смартфонаў. Склалі інструкцыю, як з мінімальнымі высілкамі дадаць крыху больш беларускай мовы ў ваша жыццё.**

Будзем лічыць, што вы карыстаецеся рускамоўным інтэрфейсам. Калі на іншых мовах, то парадак дзеянняў будзе такім жа, толькі назвы пунктаў – на адпаведных мовах.

### Беларуская раскладка на Windows 7

Каб дадаць беларускамоўную раскладку клавіятуры, спатрэбіцца літаральна хвіліна.

1. Націсніце правай кнопкай мышкі на значок, які адлюстроўвае назву мовы раскладкі. Звычайна ён знаходзіцца непадалёку ад гадзінніка.

2. Выбраць «Параметры…»

3. Ва ўкладцы «Общие» націснуць кнопку «Добавить…».

4. Знайсці ў спісе «Белорусская (Беларусь)», націснуць на кнопку з «плюсікам» і выбраць «Белорусская» (па умолчанию).

5. Націснуць «ОК» у гэтым і наступным вокнах.

Афіцыйнай беларускай лакалізацыі інтэрфейсу Windows 7 не існуе, але ёсць аматарская – яе знойдзеце на сайце **мова.бел.**

### Windows 10: беларуская раскладка і інтэрфейс

Пры распрацоўцы «дзясяткі» (і Windows 8, дарэчы) кампанія Microsoft падумала пра беларускамоўных карыстальнікаў. Дадаць беларускую мову інтэрфейсу і беларускую раскладку можна рознымі шляхамі. Вось адзін з іх.

1. Націснуць значок апавяшчэнняў справа ўнізе, ля гадзінніка, і выбраць «Все параметры».

2. Выбраць пункт «Время и язык», перайсці на ўкладку «Язык».

3. Націснуць «Добавление языка».

4. Знайсці ў спісе «Беларуская». Выбраць і націснуць «Далее».

5. Адзначыць «птушачкамі» пункты «Установить языковой пакет» і «Назначить языком интерфейса Windows», націснуць «Установить».

### Смартфон на Android

У большасці Android-смартфонаў і планшэтаў можна дадаць беларускую раскладку ў «родную» клавіятуру. Таксама можна выбраць у стандартных настройках і беларускамоўны інтэрфейс. Але існуюць і староннія клавіятуры, часта больш зручныя. Адна з іх – SwiftKey.

Пасля таго, як усталюеце SwiftKey з Play Market, трэба зайсці ў настройкі смартфона, абраць «Расширенные настройки» і націснуць «Язык и ввод».

У першым пункце – «Языки» – можна выбраць мову, на якой будзе адлюстроўвацца інтэрфейс вашага тэлефона. А каб дадаць раскладку, трэба выбраць пункт «Управление клавиатурами» – «Клавиатура SwiftKey» – «Настройки».

Самы першы пункт у плітцы – «Многоязычная». Націскаем і бачым спіс даступных моў. Калі ў пункце «Предложенные языки» беларуская мова адсутнічае, пракруціце ўніз, націсніце «Все языки» і знайдзіце ў спісе беларускую мову. Націсніце на назву мовы, затым націсніце «Загрузить».

Будзе спампаваны моўны пакет. Раскладка будзе аўтаматычна актываваная, вам застанецца націснуць на вялікую кнопку з «птушачкай».

### iPhone

Калі ў вас iPhone, то, пачынаючы ад iOS 11, ёсць магчымасць уключыць беларускую раскладку.

1. У настройках выберыце «Основные», затым «Клавиатура».

2. Націсніце на «Клавиатуры», выберыце «Новые клавиатуры…».

3. У спісе моў знайдзіце «Белорусская».

Усё гатова! Гэты спосаб справядлівы і для iPad.

Як бачыце – нічога складанага. Летась мы рыхтавалі вялікую інструкцыю, як «беларусізаваць» папулярныя сайты, сацыяльныя сеткі і месенджары – скарыстайцеся! Каб перайсці да інструкцыі, адсканіруйце QR-код.

**Аддзел інфармацыі.**





Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ганецкая не збіраецца вяртацца ў Беларусь.

# «Бізнес у Беларусі быў толькі пачаткам»

## Маладзечанка расказала аб працы і пераездзе ў Польшчу

**Паліна Ганецкая больш за 15 год займалася манікюрным сэрвісам. У яе некалькі год была буйная студыя манікюру ў Маладзечне, але цяпер Ганецкая з'ехала ў Польшчу.**

### «Займаюся манікюрам 15 год, мне – 32»

Пасля школы Паліна не паступала ва ўніверсітэт. Яе бацькі прапанавалі два варыянты: яна працуе ў іх ці ідзе на курсы манікюру. Так Ганецкая адвучылася на майстра, нейкі час працавала ў маладзечанскім Палацы культуры. Затым стала працаваць разам з сяброўкай. Тады выйшла замуж і нарадзіла дачку.

– Я займаюся манікюрам ужо 15 год. Вось з 17 год у гэтым, а цяпер мне ўжо 32 гады.

У 2012 годзе Ганецкая стала індывідуальным прадпрымальнікам і адкрыла свой кабінет па манікюры. Адпрацавала год і вырашыла яго закрыць.

– Табе трэба праходзіць стандартызацыю і сертыфікацыю. Гэта працэдура адбываецца не проста так: у цябе абавязкова знойдуць парушэнне... Я хацела сумленна ўсё рабіць, таму проста закрылася, каб не рабіць нікому бутэрброды.

Да 2017 года Паліна працавала ў сябе дома, ездзіла да кліентак.

### Адкрыццё студыі манікюру

Маладзечанка разумела, што ёй трэба развіцца, таму ў хуткім часе знайшла памяшканне для студыі манікюру. Па словах Ганецкай, яна марыла аб гэтым апошнія дзевяць год.

> **– Адкрывалася са ста доларамі ў кішэні. У мяне заставаліся крэслы і сталы пасля працы дома, але грошай на рамонт і рэкламу не было.**

Ганецкая ўспамінае, што рамонт у памяшканні рабіўся сваімі рукамі, а часам яна рабіла манікюр па бартары. Напрыклад, у кліенткі муж працуе па дрэве, то Паліна робіць ёй манікюр, а муж – паліцы ў студыю.

У 2019 годзе Ганецкая бярэ яшчэ адно памяшканне. Па яе словах, студыя манікюру займала 60 квадратных метраў, і яна была самай буйной у Маладзечне.

Ганецкая працавала на ўкладанне ў бізнес. Яна купляла новыя матэрыялы, інструменты, грошы ішлі на інтэр'ер, рэкламу. У далейшым Паліна планавала зрабіць школу манікюру: узяць да сябе на працу дзяўчат, якіх навучыла б свайму рамяству.

– У бізнесе я арыентавалася на маладых мам. Каб ім было камфортна ў мяне на студыі, я рабіла добрыя ўмовы для іх дзяцей: аквагрым, гульні, вялікая каробка LEGO. У нейкі час у мяне працавала нават нянька, каб маці магла расслабіцца.

Па словах Ганецкай, гэта быў еўрапейскі ўзровень абслугоўвання. Яна першая сярод іншых, хто займаецца манікюрам, працавала кругласутачна. Для кліентаў прапаноўвалі каву і чай, а для тых, хто прыбег з працы і не еў, – рабілі паесці.

– У мяне быў высокі цэннік, але людзі ведалі, за што яны плацяць.

### Малы бізнес, палітыка і пераезд

– Было шмат праблем, але напрыканцы 2019 года з бізнесам усё наладжвалася. І тут бахнуў каронавірус. Удары ўдарыў адчувальна: у сакавіку і красавіку амаль не было працы, толькі пастаянныя кліенты выратавалі. А ў жніўні здарылася палітыка.

Ганецкая была адной з тых прадпрымальнікаў, якія баставалі ў кастрычніку. Так яна праявіла сваю грамадзянскую пазіцыю. Кажа, што да праяўлення сваёй нязгоды прывялі, у першую чаргу, адносіны дзяржавы да прадпрымальнікаў.

Паліна мяркуе, што ў Беларусі складана адкрываць бізнес і працаваць сумленна:

> **– Працаваць сумленна тут цяжка, няшмат можа. Таму што тут чалавечая праца не цэніцца. Адкрываць малы бізнес – гэта калі ў цябе ёсць знаёмствы, ты можаш і ўмееш дамаўляцца.**

Ганецкая прыводзіць прыклад: дзяржава дае субсідыі на адкрыццё сваёй справы. Чалавеку трэба зрабіць бізнес-план, а пасля даваць справаздачу за кожную капейку, а грошы даюць малыя. Па яе словах, гэта душыць бізнес і зусім не дапамагае.

Цяпер Ганецкая знаходзіцца не ў Беларусі.

– Бізнес у Беларусі быў толькі пачаткам. Ведаеш, каб спартсмену выступіць на спаборніцтвах, то яму трэба доўга трэніравацца. І ў мяне так было. Напэўна, я больш не вярнуўся ў Беларусь.




Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


**ЛІЧБА НУМАРА**

**635 000**

столькі тон малака далі гаспадаркі ўсіх катэгорый у Беларусі за студзень.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.02 руб. | 18.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.5783 | **2.5902** |
| Еўра | 3.1256 | **3.1277** |
| Злоты, 10 | 6.9729 | **6.9449** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4912 | **3.5148** |
| Грыўня, 100 | 9.2840 | **9.2873** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **10.02** | **17.02** |
| Еўра | 3.1000/3.2000 | **3.0900/3.2000** |
| Долар ЗША | 2.5600/2.6400 | **2.5600/2.6300** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.02 Цана, руб. | 17.02 Цана, руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,57 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,80 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,50 | **18,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 6,40 | **6,40** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,95 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Авакада, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## На пажары ў Будславе загінуў мужчына

МЯДЗЕЛ

9 лютага каля пяці гадзін вечара выратавальнікам паведамілі пра пажар у Будславе.

Гараў дом па вуліцы Новай. На пажары ратавальнікі знайшлі труп мужчыны. Гэта быў 54-гадовы гаспадар. Прычыну пажару высвятляюць, расказала афіцыйны прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хтосьці паведаміў пра замініраванне чыгуначнага вакзала

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнту расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Па яе словах, 11 лютага каля дзесяці гадзін раніцы хтосьці паведаміў па тэлефоне, што замініраваны будынак чыгуначнага вакзала ў Маладзечне. Спецыялісты выехалі на месца, агледзелі будынак, выбухованебяспечных прыстасаванняў і небяспечных прадметаў не знайшлі.

– Міліцыянеры шукаюць падазраванага. Яму пагражае крымінальная адказнасць за лжывае паведамленне пра небяспеку, – адзначыла Юлія Крук.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Работніка падазраюць у крадзяжы металу з прадпрыемства

МАЛАДЗЕЧНА

Крадзеж металу на больш чым тысячу рублёў заўважылі супрацоўнікі аддзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі на прадпрыемстве ў Маладзечне, расказала афіцыйны прадстаўнік РАУС Маладзечна Юлія Крук.

Міліцыянеры ўстанавілі, што 43-гадовы раней несудзімы мясцовы жыхар, працуючы на пасадзе майстра ўчастка, злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі, лішкі вытворчасці выкрадаў. У агульнай складанасці ён незаконна вынес з прадпрыемства 650 кілаграмаў сыравіны, тым самым прычыніўшы заводу матэрыяльныя страты на 1 014 рублёў.

Устанавілі, што няўлічаную прадукцыю – ацынкаваную сталь і вырабы з яе – фігурант вывозіў з прадпрыемства ноччу на сваёй машыне. Выкрадзеныя лісты выкарыстаў на сваім дачным участку ў Валожынскім раёне – паставіў металічны плот вышынёй амаль паўтара метра ў вышыню і даўжынёй каля ста метраў.

Дзеянні маладзечанца следчыя кваліфікавалі па частцы 1 артыкула 210 КК Рэспублікі Беларусь «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі», санкцыя якога прадугледжвае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Смаргонку падазраюць ва ўгоне аўтамабіля

СМАРГОНЬ

31-гадовую смаргонку падазраюць ва ўгоне аўтамабіля «Опель-Амега».

Паводле версіі міліцыі, 8 лютага каля дзевяці вечара грамадзянка была ў стане алкагольнага ап'янення паблізу дома на вуліцы Леніна. У гэты час да крамы пад'ехаў 34-гадовы мясцовы жыхар. Мужчына выйшаў з машыны на пару хвілін, таму вырашыў не замыкаць яе, а ключы таксама пакінуў у замку запальвання.

Жанчына села ў аўтамабіль і паехала. Але на бліжэйшым павароце не справілася з кіраваннем і ўчыніла ДТЗ.

Праз некалькі хвілін пацярпелы выйшаў з крамы і ўбачыў, што аўтамабіль – зусім у іншым месцы. Аб дадзеным інцыдэнце паведамілі ў Смаргонскі РАУС. У выніку жанчыну затрымалі.

Дзеянні грамадзянкі кваліфікаваныя па частцы 1 артыкула 214 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – «Угон транспартнага сродку». Раней яна да крымінальнай адказнасці не прыцягвалася, аднак траплялa ў поле зроку міліцыі за адміністрацыйныя правапарушэнні.

**Паводле УУС Гродна.**

## Здарыліся два пажары за вечар

АСТРАВЕЦ

14 лютага ўвечары здарыліся два пажары на Астравеччыне.

Пра першы пажар выратавальнікам паведамілі ў 19:48. Гарэла гаспадарчая пабудова ў адным з двароў у Варнянах. Агонь пашкодзіў дах і дровы, што захоўваліся ў пабудове.

Другі пажар здарыўся ў вёсцы Смілгі Гудагайскага сельсавета. Пра яго паведамілі ў 21:15. Гараў жылы дом. Агонь пашкодзіў сцены, столь, закураная маёмасць.

Прычыны абодвух пажараў устанаўліваюць.

**Паводле МНС.**



Фальшывыя грошы, канфіскаваныя ў маладзечанца.

Фота УУС Віцебскага аблвыканкама.

# Маладзечанец спрабаваў збыць фальшывыя долары

## Гэтыя 550$ ён набыў у Расіі па «выгадным курсе»

МАЛАДЗЕЧНА

**У адносінах да 35-гадовага маладзечанца ўзбудзілі крымінальную справу па факце вырабу фальшывых купюр.**

– Мужчына хацеў абмяняць грошы на чыгуначным вакзале ў Віцебску. У касіра выклікалі падазрэнні адзінаццаць купюр па 50 долараў. Эксперты змаглі пацвердзіць здагадку касіра: банкноты сапраўды былі падробленыя. Міліцыянеры затрымалі 35-гадовага мужчыну з Маладзечна, – растлумачылі ў ведамстве.

І дадалі: затрыманы распавёў, што ён вяртаўся з заробкаў у Расіі, дзе і набыў дадзеныя купюры.

– У Расіі незнаёмы прадаў валюту мужчыну па выгадным курсе. У Віцебску ён чакаў перасадкі на іншы цягнік і вырашыў памяняць грошы. Таксама ён перадаў касіру еўра і расійскія рублі. Яны – сапраўдныя, – адзначылі ва УУС Віцебскага аблвыканкама.

Банкноты ў маладзечанца канфіскавалі.

**Паводле УУС Віцебскага аблвыканкама.**

## Што чакае грамадзян, якія парушаюць правілы палявання

**Апошнім часам даволі часта ўзбуджаюцца крымінальныя і адміністрацыйныя справы за незаконнае паляванне і перамяшчэнне дзікіх жывёл.**

Таму Смаргонская інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае пра адказнасць за гэтыя правапарушэнні.

Парушэнні правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання цягнуць штраф ад 580 да 1450 рублёў з пазбаўленнем права паляваць, а таксама канфіскацыю стрэльбаў і іншых прыладаў палявання. Можа чакаць і крымінальная адказнасць – ад буйнога штрафу да шасці гадоў пазбаўлення волі; і грамадзянска-прававая – неабходнасць пакрыцця шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.

Згодна з заканадаўствам, незаконнае перамяшчэнне або разбор дзікіх жывёл, у тым ліку загінулых, або іх частак, таксама цягне адміністрацыйную або крымінальную адказнасць. Калі ў багажніку вашага аўтамабіля пры праверцы знойдуць зайца, надыходзіць адміністрацыйная адказнасць. Калі аналагічнае правапарушэнне заўважаць паўторна на працягу года, вінаватага прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

Падставы для крымінальнай справы пры незаконных перамяшчэнні або разборы дзікіх жывёл наступныя:

– шкода ад незаконнай здабычы жывёл, якая перавышае сто і больш базавых велічынь;

– названыя правапарушэнні ў запаведніку, нацыянальным парку, заказніку, на тэрыторыях, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню, дзе ўсталяваны кантрольна-прапускны рэжым;

– незаконнае перамяшчэнне дзікіх жывёл, віды якіх заведама для вінаватага ўключаныя ў Чырвоную кнігу Беларусі;

– дзеянні, учыненыя службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў або асобай, якая раней была асуджаная за паказанае злачынства.

Пры адміністрацыйнай адказнасці прадугледжаны штраф ад 580 да 1450 рублёў, а пры крымінальнай – штраф, папраўчыя работы да двух гадоў або пазбаўленне волі да трох гадоў.

Акрамя названых відаў адказнасці, вінаваты павінны дадаткова пакрыць шкоду за памер шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю. Напрыклад, шкода за адну еўрапейскую казулю – 3 480 рублёў, за лася ці аленя – 8 700, за барсука – 2 900.

Таму, калі вы збілі дзікую жывёлу асабістым аўтамабілем і вырашылі забраць мяса, падумайце, колькі прыйдзецца заплаціць.

Калі вы заўважылі параненую, траўмаваную, хворую або загінулую жывёлу, неабходна паведаміць пра гэта карыстальніку паляўнічых угоддзяў (у лясгас або тэрытарыяльную ўстанову Таварыства паляўнічых і рыбаловаў), у мясцовы РАУС або РАНС.

Нагадваем паляўнічым, што ў адпаведнасці з «Часовым палажэннем аб адмысловым рэжыме канфіскацыі, пахавання і (або) знішчэння рэсурсаў дзіка на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», працягваецца канфіскацыя дзіка з наступнай яго ўтылізацыяй. Тушы канфіскаваных і трупы загінулых дзікоў да месца ўтылізацыі перавозяць на транспарце, які належыць паляўнічым угоддзям. Разбор і транспарціроўка туш дзікоў асабістым транспартам грамадзян забароненыя.

Кругласутачны нумар «тэлефона даверу» Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету – **(8 015 92) 4 40 74.**

**Дзяніс ЧАРТОВІЧ,**
**намеснік начальніка Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Маладзечанцы паведамляюць, што заўважна вырасла аплата за кватэру. Высвятляем, чаму

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі некалькі чытачоў з Маладзечна паведамілі, што, згодна з атрыманымі на днях жыроўкамі, адчувальна вырасла аплата за кватэру.**



Жыроўка за снежань ад чытачкі з Маладзечна.



Жыроўка за студзень ад той самай чытачкі. Розніца – плюс 28 рублёў 26 капеек.

Розніца ёсць у аплаце паміж снежнем і студзенем ва ўсіх прадстаўленых жыроўках. У адной з чытачак аплата за трохпакаёвую кватэру, дзе прапісаны чацвёра, вырасла **ад 52 да 92 рублёў**. У іншай маладзечанкі – **ад 59,80 да 72,28**. Тут у трохпакаёвай кватэры прапісаны трое. Фота жыровак ёсць у рэдакцыі.

У разлікова-касавым цэнтры патлумачылі, што ад 1 студзеня павялічыліся тарыфы на камунальныя паслугі. У дадатак сума можа вырасці за кошт пераразліку электрычнасці ў пад'ездзе за мінулы год. А таксама у студзені вырас расход за ацяпленне ў параўнанні са снежнем.

Удакладніць, ці правільна налічылі суму за камунальныя паслугі, можна ў разлікова-касавым цэнтры Маладзечанскага раёна па нумары (8-0176) 52-22-22.

Там вам могуць пракаментаваць, якія тарыфы павялічылася і наколькі.

Як паведамляў **tut.by**, у канцы мінулага года Лукашэнка падпісаў указ №490 «Аб устанаўленні тарыфаў для насельніцтва ў сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі на 2021 год».

Згодна з дакументам, тарыфы павысяцца ў два этапы – ад 1 студзеня і ад 1 чэрвеня.

Згодна з дакументам, ад 1 студзеня на 4,2 долара павінны былі падаражэць паслугі па тэхнічным абслугоўванні і капітальным рамонце жылых дамоў, газа-, электра- і водазабеспячэння, водаадвядзення, па абыходжанні з цвёрдымі камунальнымі адходамі, тэхнічным абслугоўванні ліфта, запорна-пераговорных прылад (дамафонаў) у пад'ездзе, санітарным утрыманні дапаможных памяшканняў шматкватэрнага жылога дома, памеры кампенсацыі выдаткаў на электраэнергію.

**Аддзел інфармацыі.**

## Не стала журналісткі Наталлі Валынец

ВІЛЕЙКА

**14 лютага раптоўна перастала біцца сэрца журналісткі і пісьменніцы віляйчанкі Наталлі Валынец.**



Фота з асабістай старонкі Наталлі Валынец у Фэйсбуку.

Наталля Валынец.

Наталля прыйшла ў журналістыку ў пачатку 1980-х, закончыўшы журфак БДУ. Працавала ў вілейскай раённай газеце, у нацыянальных выданнях. Яе ведаюць на Смаргоншчыне, Астравеччыне і Ашмяншчыне, дзе яна шмат год адпрацавала ўласным карэспандэнтам абласной газеты.

Ад першага года існавання «Рэгіянальнай газеты» Наталля Валынец супрацоўнічала з нашым выданнем. З яе дапамогай рабіліся рэпартажы і інтэрв'ю, мы разам выязджалі да апошняга жывога сведкі жыцця ў мястэчку-вёсцы Стрыпішкі стараабрадца **Малафа Зубанава** на самы край краіны: на мяжу Беларусі і Літвы, дзе яшчэ захавалася ў лесе драўляная Траецкая царква. Рабілі рэпартаж са здымкаў мастацкага фільма ў маляўнічым мястэчку Жодзішкі, разам расказвалі пра з'яўленне на свет чацвярні дзетак у шчаслівай сям'і **Марыны** і **Уладзіміра Лукашэвічаў** з Ашмянаў...

Аб смерці нашай калегі нам паведамілі яе блізкія.

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» смуткуе з прычыны смерці Наталлі Валынец і выказвае шчырае спачуванне яе родным і блізкім.

**Аддзел інфармацыі.**

## Што не так з ільняной галінай на Міншчыне

**На пасяджэнні калегіі Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці разгледзелі, як працуе льняная галіна на Міншчыне.**

У вобласці працуюць над павышэннем эфектыўнасці работы льнозаводаў, абнаўляюць і ўмацоўваюць матэрыяльна-тэхнічную базу льнасеяльных арганізацый.

Але праведзеныя спецыялістамі Камітэта дзяржкантролю кантрольна-аналітычныя мерапрыемствы сведчаць, што ў поўным аб'ёме тут не выконваюць даручэнні Аляксандра Лукашэнкі і ўрада Рэспублікі Беларусь, якія датычацца развіцця галіны.

Да прыкладу, не выконваецца патрабаванне Лукашэнкі па захаванні тэхналогіі вытворчасці лёну згодна з распрацаваным НАН Беларусі рэгламентам. Пад пасевы лёну не заўсёды выдзяляюць прыдатныя землі, за кожным ільнозаводам не замацоўваюць пастаянныя сыравінныя зоны ў адпаведнасці з тэхналагічнымі патрабаваннямі і севазваротам.

У выніку не выконваецца заданне ўрада па валавой вытворчасці льняной саломы і валакна. У 2020 годзе валавы збор трасты (льняной саломы) склаў 33 тысячы тон. Адпаведнае заданне ўрада выканалі на 96 працэнтаў. У пераводзе на льновалакно, на Міншчыне нарыхтавалі восем з паловай тысяч тон ільносыравіны. Гэта 81% ад даведзенага задання.

Пры гэтым якасць нарыхтаванай сыравіны застаецца нізкай. Згодна з аператыўнай інфармацыяй, сярэдні нумар трасты склаў 0,62 супраць 0,69 годам раней.

Нізкая якасць сыравіны разам з маральным і фізічным зносам тэхналагічнага абсталявання не дазваляюць забяспечыць Мінскай вобласці выкананне паставак ільнянога валакна для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб у поўным аб'ёме. Фактычна за 2020 год галіна выканала 80% да гадавога плана.

У той жа час, ільнозаводы ў поўным аб'ёме не выкарыстоўваюць наяўныя рэзервы павышэння эфектыўнасці работы за кошт вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі паглыбленай перапрацоўкі лёну. Нягледзячы на тое, што вытворчасць кастрабрыкетаў і льнянога алею з'яўляецца рэнтабельнай, тэхналагічнае абсталяванне штогод у поўным аб'ёме не выкарыстоўваецца.

Калегія звярнула ўвагу органаў дзяржаўнага кіравання і іншых зацікаўленых на неабходнасць прыняцця мер, якія б ліквідавалі парушэнні і спрыялі выкананню планаў.

Кантроль за льняной галінай на Міншчыне будзе працягнуты.

**Упраўленне кантролю за працай аграпрамысловага і прыродаахоўнага комплексаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Мінскай вобласці.**

Рэгіянальная газета.

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэцы на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.**


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Алмера, 1,6 бензін, аўтамат. Т. (8-029) 5042529.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., сталяі на Ford, няндорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане. Можна не на ходу. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў в. Ерхі Вілейскага раёна, агульная плошча 67 кв. м, з выгодамі, 1 паверх. Ацяпленне паравое (кацёл на цвёрдым паліве). Т. МТС (8-029) 5094911, Людміла.

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне, сталярны цэх, гараж. Т. (8-044) 7722658.*

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул. Ф. Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у Вілейцы, 62 кв. м, участак 15 сотак, сад, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 8649054.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зялянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Парасяты свойскія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, А1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*





### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Жарабца. Т. (8-029) 5083838.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*





**Пропала собака!**

05.02.2021 г. в д. Лозавец Молодечненского района **пропала немецкая овчарка, кличка Берта.**

Просьба, кто знает о её местонахождении, позвонить по тел.

(8-025) **518-77-10** (Viber, WhatsApp, Telegram)

# У садку правялі снежны суботнік

СМАРГОНЬ

**У снежны лютаўскі дзень дашкольнікі ясляў-сада №13 ад раніцы прыйшлі з маленькімі лапаткамі. Педагогі абвясцілі тут снежны суботнік.**

Перад ім выхавальніца правяла інструктаж па тэхніцы бяспекі. Затым размеркавала абавязкі: дзяўчынкі расчышчалі дарожкі каля веранды, хлопчыкі кідалі снег у вёдры і выносілі яго ў тое месца, дзе пасля абеду будуць будаваць горку. Праца ішла актыўна. Усе з адказнасцю выконвалі дaручаную справу. Калі расчысцілі снег, участак стаў зручным для бегу, скокаў, рухомых гульняў.

Мы, педагогі, лічым, што прагулка дае добрыя магчымасці для ўсебаковага развіцця дзяцей, выдатна ўплывае на іх фізічнае выхаванне, умацоўвае здароўе. Чым больш змястоўна і цікава арганізаваць вольны час дзяцей на вуліцы, тым ярчэй будуць у выхаванцаў уяўленні аб навакольным свеце. А працоўнае выхаванне на свежым паветры не толькі фарміруе ў дзяцей працоўныя навыкі і развівае працавітасць, але і наладжвае дружалюбныя ўзаемаадносіны паміж дашкольнікамі.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыка па асноўнай рабоце ясляў-сада №13 горада Смаргоні.**



Фота забяспечанае аўтарам.

Падчас снежнага суботніка.

# Калі і як плаціць страхавыя ўнёскі

**Абавязковыя страхавыя ўнёскі неабходна выплаціць не пазней за 1 сакавіка.**

Калі дзейнасць вялася ўвесь год, для ІП, адвакатаў, натарыусаў мінімальны памер унёскаў за мінулы год складае 1584,40 рубля, для самазанятых асоб мінімальны памер унёскаў за гэты ж перыяд – 1312,78 рубля.

Калі ёсць перыяды бяздзейнасці, неабходна разлічыць суму ўнёскаў з улікам гэтых перыядаў. Калькулятар для разліку размешчаны на сайце фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

Выплата абавязковых страхавых унёскаў гарантуе ўключэнне перыядаў дзейнасці ў страхавы стаж для прызначэння пенсіі. У адпаведнасці з заканадаўствам, пенсію прызначаюць пры наяўнасці мінімальнага памеру страхавога стажу – у 2021 годзе 18 гадоў.

Перыяды, калі прадпрымальнікі працуюць і не працуюць, сумы абавязковых страхавых унёскаў за перыяды дзейнасці плацельшчыкі пазначаюць самастойна ў індывідуальных звестках па форме персаніфікаванага ўліку (форма ПУ-3) і падаюць у органы фонду для іх занясення ў індывідуальны асабовы рахунак застрахаванай асобы.

Індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 неабходна падаць не пазней за 31 сакавіка гэтага года.

Для запаўнення формы ПУ-3 трэба выкарыстоўваць праграмны комплекс (ПК) «Увод ДПУ», прызначаны для падрыхтоўкі дакументаў персаніфікаванага ўліку і наступнай іх падачы ў орган фонду. ПК «Увод ДПУ» размешчаны на сайце фонду ў раздзеле «Праграмнае забеспячэнне».

Даступныя чатыры спосабы падачы формы ПУ-3.

**Спосаб 1**. Спрошчаны. Ён выкарыстоўваецца, калі ў плацельшчыка няма перыядаў бяздзейнасці і запазычанасці па выплаце абавязковых страхавых унёскаў за справаздачны перыяд. У такім выпадку форма ПУ-3 можа запаўняцца інспектарам фонду.

**Спосаб 2.** Падача дакументаў інспектару фонду. Выкарыстоўваецца, калі ў плацельшчыка няма электроннага лічбавага подпісу і атрыбутнага сертыфіката фонду.

Запоўненая форма ПУ-3 падаецца ў электронным фармаце (файл у фармаце .txt з прыкладаннем дакументаў на папяровых носьбітах, завераных уласнаручным подпісам плацельшчыка) у орган фонду па месцы пастаноўкі на ўлік у якасці плацельшчыка ўнёскаў.

**Спосаб 3.** Аўтаматызаваны, калі дакументы ў фонд падаюць дыстанцыйна праз камп'ютар. Спосаб выкарыстоўваецца, калі ў плацельшчыка ёсць электронны лічбавы подпіс і атрыбутны сертыфікат фонду. Запоўненую форму ПУ-3 перадаюць дыстанцыйна ў выглядзе электроннага дакумента, заверанага электронным лічбавым подпісам. Робіцца гэта праз электронны сэрвіс «Падача дадзеных на партал фонду».

**Спосаб 4**. Аўтаматычны. Дакументы падаюць дыстанцыйна праз асабісты кабінет на партале фонду. Спосаб выкарыстоўваецца пры наяўнасці ў плацельшчыка электроннага подпісу і атрыбутнага сертыфіката фонду. Запоўненая форма ПУ-3 фарміруецца ў аўтаматычным рэжыме па запыце падаткаплацельшчыка і падаецца дыстанцыйна ў выглядзе электроннага дакумента, заверанага электронным лічбавым подпісам. Робіцца праз электронны сэрвіс «Аўтаматычнае фарміраванне індывідуальных звестак па форме ПУ-3». Паслуга даступная ў асабістым кабінеце плацельшчыка ў раздзеле «Даведачна-інфармацыйныя сэрвісы» на партале фонду.

Кансультацыю па запаўненні можна атрымаць у аддзеле арганізацыі персаніфікаванага ўліку Мінаблупраўлення фонду па тэлефонах: **(8 017) 375-78-30, 301-13-33, 375-37-66** і ў раённым аддзеле фонду па месцы рэгістрацыі.

Можна звяртацца і ў шматфункцыянальны цэнтр абслугоўвання. Тэлефон **(8 017) 352-05-01**; e-mail **kao@minsk.ssf.gov.by.**

**Райаддзел Мінаблупраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

# Дэкларацыі па падаходным падатку трэба падаць да 31 сакавіка

**У Беларусі праходзіць кампанія па дэклараванні даходаў фізічнымі асобамі, атрыманых у 2020 годзе.**

Не пазней за 31 сакавіка 2021 года некаторым фізічным асобам неабходна падаць у падатковы орган дэкларацыю па падаходным падатку аб даходах за 2020 год.

## Хто абавязаны падаць дэкларацыю?

Дэкларацыю падаюць грамадзяне – падатковыя рэзідэнты Беларусі, якія атрымалі ў 2020 годзе даходы, якія падлягаюць падаткаабкладанню (п.1, ч.1 п.2 артыкула 219, п.1 артыкула 222 Падатковага кодэкса (далей – ПК)). Да такіх даходаў адносяцца:

1. Даходы ад **продажу** (іншага выплатнага адчужэння):

1.1. на працягу апошніх пяці гадоў (ад 2016 года да 2020 года):

– больш за адно незавершанае будаўніцтва капітальнага будынка, размешчанага на зямельным участку, дадзеным для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, садаводства, дачнага будаўніцтва, у выглядзе службовага надзела;

– больш за 1 кватэру;

– больш за 1 жылы дом (у тым ліку з гаспадарчымі пабудовамі);

– больш за 1 дачу;

– больш за 1 садовы домік (у тым ліку з гаспадарчымі пабудовамі);

– больш за 1 гараж;

– больш за 1 машына-месца;

– больш за 1 зямельны ўчастак.

Гэтыя даходы падлягаюць дэклараванню незалежна ад таго, каму прадалі нерухомасць – фізічнай асобе ці арганізацыі (абз.2 ч.1 п.44 артыкула 208, абз.5 п.2 артыкула 216, падп.1.1 п.1 артыкула 219 ПК);

1.2. іншай нерухомасці, якая не адносіцца да вышэйпералічанай (напрыклад, офісныя, гандлёвыя, складскія памяшканні), **фізічным асобам (якія не з'яўляюцца ІП)** (абз.4 ч.1 п.44 артыкула 208, падп.1.1 п.1 артыкула 219 ПК );

1.3. больш за 1 аўтамабіль, тэхнічна дапушчальная агульная маса кожнага з якіх не перавышае 3,5 тоны і **колькасць месцаў для сядзення, акрамя месца вадзіцеля, не перавышае васьмі**, ці іншага механічнага транспартнага сродку (напрыклад, матацыкла, мапеда).

Такія даходы трэба дэклараваць незалежна ад таго, каму гэтыя транспартныя сродкі прададзеныя – фізічнай асобе ці арганізацыі (абз.3 ч.1 п.44 артыкула 208, абз.6 п.2 артыкула 216, падп.1.1 п.1 артыкула 219 ПК);

1.4. аўтамабіляў вагой больш за 3,5 тоны або з колькасцю пасажырскіх сядзенняў больш за восем (напрыклад, грузавога аўтамабіля, аўтобуса) фізічным асобам (якія не з'яўляюцца ІП) (падп.1.1 п.1 артыкула 219 ПК);

1.5. каштоўных папер, фінансавых інструментаў тэрміновых здзелак, маёмасных правоў, доляў, паёў (частак долі, паю) у арганізацыях, маёмасці, якую выкарыстоўвалі раней у прадпрымальніцкай дзейнасці ў якасці асноўных сродкаў, фізічным асобам (якія не з'яўляюцца ІП) (абз.4 ч.1 п .44 артыкула 208, падп.1.1 п.1 артыкула 219 ПК).

**Не ўлічваюцца** ні ў колькасці, ні ў межах рэалізаваных названых вышэй відаў маёмасці, якія:

– прадалі блізкім сваякам (дзецям, бацькам, родным братам і сёстрам, дзеду, бабулі, унукам, прадзеду, прабабцы, праўнукам, мужам) або блізкім сваякам мужа (у тым ліку памерлага), а таксама апекунам, папячыцелям і падапечным (падп.2.1 п.2 артыкула 196 ПК);

– атрымалі па спадчыне (абз.5 ч.1 п.44 артыкула 208 ПК).

Даходы ад іх продажу дэклараваць не трэба.

2. **Падарункі** (грошы, нерухомасць, іншая маёмасць) і **нерухомасць па дагавору рэнты бясплатна**, атрыманыя ад фізічных асоб (якія не з'яўляюцца ІП), калі такія даходы ў суме перавысілі 7003 руб. за год (п.22 артыкула 208, падп.1.4 п.1 артыкула 219 ПК, дадатак 9 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2019/12/31 №503 «Аб падаткаабкладанні»).

3. Даходы, атрыманыя ад фізічных асоб і арганізацый людзьмі з інваліднасцю, непаўналетнімі дзецьмі-сіротамі і дзецьмі, якія засталіся без апекі бацькоў, у выглядзе **бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі**, а таксама ахвяраванняў, якія паступілі на дабрачынныя рахункі беларускіх банкаў, калі іх сума перавысіла 13 994 руб. за год (п.29 артыкула 208, падп.1.5 п.1 артыкула 219 ПК, дадатак 9 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2019/12/31 № 503 «Аб падаткаабкладанні»).

4. Даходы, атрыманыя **за мяжой або з-за мяжы**. Напрыклад, ад працы па найму (кантракту), ад продажу акцый або іншых каштоўных папер, у выглядзе працэнтаў па рахунках (укладах) у замежных банках, у дар ад замежных грамадзян і арганізацый, у тым ліку з дапамогай банкаўскіх пераводаў, паштовых адпраўленняў і іншае. (падп.1.2 п.1 арт.219 ПК).

Калі з такога даходу ў замежнай дзяржаве ўтрымалі падатак, яго сума можа быць залічаная на падставе адпаведных дакументаў, пацверджаных падатковым органам замежнай дзяржавы (п.1 артыкула 224 ПК).

У складзе пералічаных у п. 2-4 даходаў не ўлічваюцца даходы, атрыманыя ад блізкіх сваякоў (дзяцей, бацькоў, родных братоў і сясцёр, дзеда, бабкі, унукаў, прадзеда, прабабкі, праўнукаў, мужа і жонкі) або блізкіх сваякоў мужа (у тым ліку памерлага), а таксама ад апекуноў, папячыцеляў і падапечных (падп.2.1 п.2 артыкула 196 ПК).

Іх дэкларацыя не трэба.

5. Даходы, атрыманыя ў выглядзе **вяртання** раней унесеных сродкаў, у выпадку скасавання (падп.1.6, 1.7 п.1 артыкула 219 ПК):

– дагавораў добраахвотнага страхавання жыцця і дадатковай пенсіі, якія складаліся тэрмінам на тры і больш за год;

– дамовы на будаўніцтва жылля або змяншэнне кошту будаўніцтва жылля;

– дагавора будаўніцтва жылля шляхам набыцця жыллёвых аблігацый;

– дагавора лізінгу, які прадугледжвае выкуп жылля, або ўнясенне ў яго змен, якія адмяняюць выкуп гэтага жылля.

Названыя сумы падлягаюць дэклараванню, калі па іх былі пададзеныя адпаведна сацыяльны (падп.1.2 п.1 артыкула 210 ПК) або маёмасны (падп.1.1 п.1 артыкула 211 ПК) падатковыя вылікі.

6. Даходы, атрыманыя ад прадпрымальніцкай дзейнасці пасля выключэння ІП з адзінага дзяржаўнага рэестра юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў (падп.1.2 п.1 артыкула 219 ПК).

Пры дэклараванні пералічаных даходаў і пры наяўнасці права можна ўжыць падатковыя вылікі:

– стандартныя (п.1, ч.2 п.2 артыкула 209 ПК);

– сацыяльныя (п.1, ч.1 п.2 артыкула 210 ПК);

– маёмасныя (ч.16 падп.1.1 п.1 артыкула 211 ПК);

– вылік па даходах па аперацыях з каштоўнымі паперамі і фінансавымі інструментамі тэрміновых здзелак (п.9 артыкула 202 ПК).

Для гэтага разам з дэкларацыяй падаюцца, у тым ліку дакументы, якія пацвярджаюць права на гэтыя вылікі.

**Не абавязаныя, але могуць** падаць падатковую дэкларацыю грамадзяне, якія атрымалі:

– даходы ад выплатнага адчужэння маёмасці, – з мэтай прымянення маёмаснага выліку (ч.13 падп.1.2 п.1 артыкула 211 ПК);

– аўтарскія ўзнагароджанні або ўзнагароджанні за вынікі інтэлектуальнай дзейнасці, – з мэтай прымянення прафесійнага выліку (ч.6 п.1 артыкула 212 ПК);

– даходы ад асабістай дзейнасці за ўдзел у спартыўных спаборніцтвах не ў рамках каманднага ўдзелу (спартсмены і іх трэнеры), – з мэтай прымянення прафесійнага выліку (ч.3 п.2 артыкула 212 ПК).

Дакументы, якія пацвярджаюць права на гэтыя вылікі, падаюцца разам з дэкларацыяй.

Тэрмін падачы дэкларацыі ў гэтым выпадку **не абмяжоўваецца 31 сакавіка**.

Падаць дэкларацыю па падаходным падатку можна ў любую інспекцыю МПЗ незалежна ад месца пастаноўкі на ўлік і месца жыхарства (абз.2 падп.2.1 п.2 артыкула 26, ч.2 п.3 артыкула 40 ПК).




Ад 1 студзеня базавая велічыня павялічылася да 29 рублёў.

**Ад 1 студзеня 2021 года базавая велічыня павялічылася да 29 рублёў.**

## Як падаць дэкларацыю?

Форма падатковай дэкларацыі па падаходным падатку з фізічных асоб устаноўленая пастановай Міністэрства па падатках і зборах ад 31.12.2010 №100 «Аб вылічэнні і выплаце падаткаў з фізічных асоб» (дадатак №1 да пастановы). Пастановай №100 таксама зацверджаная інструкцыя, якая рэгулюе парадак запаўнення дэкларацый (п.2 пастановы №100).

Спампаваць дэкларацыю можна на сайце МПЗ (http://www.nalog.gov.by/ru/forma-nalog-deklaratii/).

Фізічная асоба падатковую дэкларацыю (разлік) па падаходным падатку можа накіроўваць адным з наступных спосабаў (ч.2 п.3 артыкула 40 ПК):

1) асабіста аднесці ў падатковую;

2) перадаць праз свайго прадстаўніка. Гэта можа быць любая фізічная асоба (п.1, ч.2 п.4 артыкула 24 ПК). Прадстаўнік павінны мець натарыяльна завераную або прыроўненую да яе даверанасць (абз.1 і 2 ч.3 падп.5.1 п.5 артыкул 24 ПК, п 3 арт.186 ГК). Па выбары даверанасць можна заверыць па месцы працы (вучобы), па месцы жыхарства ў арганізацыі, якая эксплуатуе жыллёвы фонд і (або) аказвае жыллёва-камунальныя паслугі (ч.3 падп.5.1 п.5 артыкула 24 ПК);

3) адправіць па пошце. У гэтым выпадку днём падачы дэкларацыі будзе дата на паштовым штампе (ч.1 п.5 артыкула 40 ПК);

4) паслаць у электронным выглядзе праз асабісты кабінет на партале МПЗ.

Увайсці ў асабісты кабінет можна:

– **з дапамогай уліковага запісу і пароля**. Грамадзяне могуць запаўняць і падаваць дэкларацыі ў электронным выглядзе праз асабісты кабінет без асабістага ключа электроннага лічбавага подпісу (ЭЛП) (ч.2 п.3 артыкула 40 ПК).

Для рэгістрацыі ў якасці карыстальніка асабістага кабінета плацельшчыка грамадзяніну неабходна з пашпартам (ці з пасведчаннем на права жыхарства) звярнуцца ў любую падатковую інспекцыю, дзе яму бясплатна дадуць логін і пароль для ўваходу ў асабісты кабінет.

Таксама можна запоўніць і адправіць заяўку на атрыманне логіна і пароля адразу на партале МПЗ (https://lkfl.portal.nalog.gov.by/web/guest/user_registration_form). Але і ў гэтым выпадку за імі прыйдзецца ісці ў падатковую інспекцыю;

– з дапамогай ЭЛП.

Для гэтага неабходна зарэгістравацца ў якасці абанента цэнтра інфраструктуры адкрытых ключоў (http://www.portal.nalog.gov.by/web/nalog/physical/howpresent). Паслуга платная.

Днём падачы падатковай дэкларацыі ў электронным выглядзе лічыцца дата прыёму парталам МПЗ. Яна фіксуецца ў пацвярджэнні (ч.1 п.5 артыкула 40 ПК).

## Адміністрацыйная адказнасць за невыкананне падатковага абавязацельства ў добраахвотным парадку

За парушэнне тэрміну падачы падатковай дэкларацыі прадугледжаны штраф у памеры дзвюх базавых велічынь з павелічэннем яго на 0,5 базавай велічыні за кожны поўны месяц пратэрміноўкі, але не больш за 10 базавых велічынь, гэта значыць ад 58 руб. да 290 руб. (ч.3 артыкула 13.4 КаАП).

На падставе пададзенай дэкларацыі і прыкладзеных да яе дакументаў падатковы орган разлічыць суму падаходнага падатку і не пазней за 30 красавіка 2021 года паведаміць грамадзяніну паведамленнем на яго выплату (асабіста пад подпіс або лістом па пошце альбо праз асабісты кабінет плацельшчыка) (ч.2, 4 п.2 артыкула 219, ч.1 п.6 артыкула 222 ПК, п.3, ч.1, 2 п.4 Інструкцыі №100). Падатак варта выплаціць у бюджэт не пазней за 1 чэрвеня 2021 года (ч.3 п.2 арт.219 ПК). У большасці выпадкаў стаўка падатку складзе 13% ад атрыманага прыбытку (п.1 арт.214 ПК).

За парушэнне тэрміну выплаты падаходнага падатку па неасцярожнасці (калі сума падатку або яго часткі больш за адну базавую), прадугледжаны штраф у памеры 15% ад нявыплачанай сумы падатку, але не менш за 0,5 базавай велічыні, гэта значыць ад 14,50 руб. (ч. 6 артыкула 13.6 КаАП). У выпадку намеру штраф складзе 40%, але не менш за 10 базавых велічынь (ч. 6, 8 артыкула 13.6 КаАП).

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне прымае падатковыя дэкларацыі па падаходным падатку з фізічных асоб:

- ад панядзелка па пятніцу (у працоўныя дні) ад 8:00 да 19:00;
- 20 і 27 сакавіка 2021 года – ад 9:00 да 13:00.

## Беларусь 1

**6.05, 21.40** Х/ф **«САШКИНА УДАЧА».**

**8.00** Існасць [СТ].

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».

**9.55** Здоровье [СТ].

**10.45** «Повод есть».

**11.25, 12.10** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**

**13.25** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.10** Краіна.

**15.40** Истории спасения.

**16.10** Один день.

**16.40, 19.10** Х/ф **«СУДЬБА ПО ИМЕНИ ЛЮБОВЬ».**

**21.00** Панорама.

**1.40** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 17.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.05** Х/ф **«ТАЙНА КРАСНОЙ ПЛАНЕТЫ».**

**11.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**12.20** Камень, ножницы, бумага.

**12.55** «На неделю».

**13.40** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**14.40** Х/ф **«КАК ПРОГУЛЯТЬ ШКОЛУ С ПОЛЬЗОЙ».**

**16.40** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**17.45** «Развод и девичья фамилия». Реалити-шоу.

**18.45** Приключенческий фильм-фэнтези «Хроники Нарнии: Лев, Колдунья и платяной шкаф».

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.20** Фантастико-приключенческий экшн «Мстители: Эра Альтрона».

**23.50** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».

**8.00, 16.35** Навіны культуры.

**8.20** «Телевизор кота Леопольда». Мультфільм.

**8.25** «Не можа быць!» Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая спадчына». Традыцыя прыгатавання рыбы, сушанай у печы на саломе, і страў на яе аснове.

**10.25** «Беларуская кухня». Мяшанка.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.20** «Апошні рэйс «Альбатроса». Мастацкі фільм [СТ].

**16.05** «Навукаманія».

**16.55** «Высокі бландзін у чорным чаравіку». Мастацкі фільм.

**18.25** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака». Зоя Літвінава.

**18.50** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**19.05** «Без асобай рызыкі». Мастацкі фільм [СТ].

**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – кандыдат гістарычных навук Алеся Корсак.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чалавек ніадкуль». Мастацкі фільм [СТ].

**22.25** Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Канцэрт да 250-годдзя з дня нараджэння Людвіга ван Бетховена.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».

**10.00** «Анне Вески. Горячая эстонская женщина».

**11.00** «Видели видео?».

**13.10** «Три плюс два». Версия курортного романа».

**14.10** Х/ф **«ТРИ ПЛЮС ДВА».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** Премьера. «Сегодня вечером».

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.05** Премьера. «Сегодня вечером». Продолжение.

**22.00** Х/ф **«ПОБЕГ».**

**0.15** Георгий Юматов.

## СТВ

**6.05** «Тайны Беларуси».

**7.50** Документальный проект.

**8.45** «Анфас».

**9.05** «Самая полезная программа».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** Т/с **«ДЖОКЕР. ВОЗМЕЗДИЕ».**

**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ОПЕРАЦИЯ «КАПКАН».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**20.30** «СТВ-спорт».

**20.40** Т/с **«КРАПОВЫЙ БЕРЕТ».**

**23.45** «Территория заблуждений».

**0.55** «Секретные территории».

## Мир

**5.00, 2.20** Т/с **«КЛАССНЫЕ МУЖИКИ».**

**5.30, 6.15, 8.10** Мультфильмы.

**6.00** «Всё, как у людей».

**7.10** «Игра в слова» с Антоном Комоловым.

**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00** Погода в Мире.

**10.10, 16.15, 19.15** Т/с **«ШТРАФНИК».**

**16.00, 19.00** Новости.

**0.45** Х/ф **«ЗДРАСЬТЕ, Я ВАШ ПАПА!».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05, 7.10** Сегодня. Главное.

**6.10** За гранью.

**6.35** Беларусы.

**7.25** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Сломать стереотипы.

**10.40** Главная дорога.

**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**12.05** Квартирный вопрос.

**13.00** Истории спасения.

**13.35** «Поедем, поедим!».

**14.10** Х/ф **«МЕРТВОЕ СЕРДЦЕ».**

**16.20** «Секрет на миллион». Регина Мянник.

**18.05** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**19.50** Ты не поверишь!

**20.50** Х/ф **«ОТСТАВНИК. СПАСТИ ВРАГА».**

**22.40** Х/ф **«ЧУЖОЕ ЛИЦО».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».

**8.20** «Специальный репортаж».

**9.00** Х/ф **«МАМА НАПРОКАТ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.15** «Тайны Беларуси».

**12.15** «Сто к одному».

**13.10** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**14.20** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**15.30** Т/с **«АКУШЕРКА. НОВАЯ ЖИЗНЬ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.30** Х/ф **«ВТОРАЯ ПОПЫТКА».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Фрида. **7.10** Хоббит: Нежданное путешествие. **10.05** Хоббит: Пустошь Смауга. **13.00** Хоббит: Битва пяти воинств. **15.30** Как украсть небоскрёб. **17.20** Дюплекс. **19.00** Не говори ни слова. **21.05** Клиент. **23.15** Останься. **1.00** Мамма MIA! **2.55** Афера Томаса Крауна.

### TV1000 ACTION

**5.10** Скалолаз. **6.55** Схватка. **8.55** Чужой против Хищника. **10.30** Чужой. **12.40** Чужие. **15.10** Чужой 3. **17.10, 3.35** Затерянные во льдах. **19.00** Телохранитель киллера. **21.05** Криминальное чтиво. **23.45** Коломбиана. **1.40** Обливион.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Гуляй, Вася! **7.10** Семь ужинов. **8.45** Успех. **10.35** Граница. Таёжный роман. **13.00** 9 рота. **15.30** Калашников. **17.20** Цой. **19.10** Пять невест. **21.10** На районе. **23.00** Духless. **0.45** О чём молчат девушки. **2.10** Тихая застава. **3.40** 28 панфиловцев.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45** Х/ф **«ЧУЖИЕ». 12.30** Х/ф **«ЧУЖОЙ 3». 15.00** Х/ф **«ЧУЖОЙ: ВОСКРЕШЕНИЕ». 17.00** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА: ВОЗМЕЗДИЕ». 19.00** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **20.30** Х/ф **«РАЗРУШИТЕЛЬ». 23.00** Х/ф **«КОД 8». 1.00, 1.45, 2.30, 3.15, 3.45** Т/с **«ВИКИНГИ». 4.30** «Городские легенды». **5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 12.00, 20.00, 4.00** Х/ф **«ЛУНОЙ БЫЛ ПОЛОН САД». 13.00, 21.00** Т/с **«АННА ГЕРМАН». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ. СЧАСТЬЕ ВЗАЙМЫ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА». 5.00** Т/с **«Я РЯДОМ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«ПИПЕЦ». 2.45** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 5.20** Х/ф **«БЕЗУМНЫЕ СОСЕДИ». 6.55** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ: НАРОДНЫЕ МСТИТЕЛИ». 8.35** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?». 10.20, 23.35** Х/ф **«МАРТОВСКИЕ КОТЫ». 12.10** Х/ф **«ПОЛИЦЕЙСКИЙ С РУБЛЕВКИ. НОВОГОДНИЙ БЕСПРЕДЕЛ». 14.00** Х/ф **«ПОЛИЦЕЙСКИЙ С РУБЛЕВКИ. НОВОГОДНИЙ БЕСПРЕДЕЛ 2». 15.35** Х/ф **«МОЯ БОЛЬШАЯ ГРЕЧЕСКАЯ СВАДЬБА 2». 17.25** Х/ф **«ПЫШКА». 19.30** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА». 21.40** Х/ф **«ДЕДУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.55, 1.55, 2.55, 4.05, 5.00, 6.00, 7.00, 8.00** Т/с **«ШЕЛЕСТ». 9.00, 9.55, 10.55, 11.55, 12.55** Т/с **«КОНСУЛЬТАНТ». 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.50, 18.50, 19.45, 20.45** Т/с **«ЧУЖАЯ ДОЧЬ». 21.40, 22.35, 23.30** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 3.10** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **14.00** Шоу «МЕЖДУ НАМИ ШОУ». **15.05, 16.30, 17.55, 21.00, 0.25, 1.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **19.15** Фэнтези «ЧУДО-ДЕТКИ: НЕПУТЁВЫЕ ВОЛШЕБНИКИ». **22.30** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АМЕРИКАНЦА В АРМЕНИИ». 4.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Легкая атлетика. Международная матчевая встреча. Юниоры. **10.00** На пути к Токио. **10.30** Теннис. WTA. Аделаида. **12.30** Большой спорт. **13.15** Вот это спорт! **13.35** Овертайм. **14.10** Мир английской премьер-лиги. **14.45** Футбол. На пути к ЧМ-2022. **15.20** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Вест Хэм. **17.00** Спорт-центр. **19.20** Футбол. Лига Европы. 1/16 финала. Ответные матчи. Обзор. **20.20** Футбол. Чемпионат Англии. Лидс – Астон Вилла. В перерыве Спорт-центр. **22.20** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **22.50** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Вулверхэмптон. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**1.30** Велоспорт. «Тур ОАЭ». 6-й этап. **2.30, 8.30, 17.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира. Оберстдорф. HS 106. Мужчины. Квалификация. **3.30** Лыжное двоеборье. Чемпионат мира. Оберстдорф. HS 106. Мужчины. **4.15** Лыжное двоеборье. Чемпионат мира. Оберстдорф. Гонка преследования. **5.00, 6.00, 9.30, 22.00** Снукер. The Players Championship. 1/2 финала. **7.30** Лыжные гонки. Чемпионат мира. Оберстдорф. Мужчины и женщины. Спринт. **10.30** Горные лыжи. Чемпионат мира. Кортина-д'Ампеццо. Мужчины. Слалом-гигант. **11.10** Горные лыжи. Чемпионат мира. Кортина-д'Ампеццо. Мужчины. Слалом. **11.50** Горные лыжи. Кубок мира. Банско. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **13.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-ди-Фасса. Женщины. Скоростной спуск. **14.35** Горные лыжи. Кубок мира. Банско. Мужчины. Слалом-гигант. **16.00** Лыжные гонки. Чемпионат мира. Оберстдорф. Мужчины. Скиатлон. **16.50** Лыжные гонки. Чемпионат мира. Оберстдорф. Женщины. Скиатлон. **17.20** Лыжное двоеборье. Чемпионат мира. Оберстдорф. Женщины. Гонка преследования. **18.20** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира. Оберстдорф. HS 106. **20.15** Лёгкая атлетика. Perche Elite Tour. Прыжки с шестом.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.15, 8.35, 12.05, 15.10, 17.50, 22.45, 0.25, 2.45** Итоговые новости. **6.30, 8.00, 10.00, 17.15, 21.20, 1.15, 2.15** По обе стороны экватора. **7.00, 8.55, 18.10** Трасса А2. **7.45** Школа внедорожного вождения. **9.40, 10.35, 13.15, 14.10** Тайный покупатель. **10.55** Тест в большом городе. **11.30, 19.30, 23.00, 3.30** Вторичка. **11.50, 19.45, 23.15, 3.45** Электродрайв. **12.25, 20.10, 23.35** Стальные парни. **13.35, 0.45** Испытание на прочность. **14.30, 1.45** Тест на «Драйве». **14.55, 19.00, 20.00** Наезд! **15.25, 21.00, 4.15** Самообслуживание. **15.40, 5.00** Комплектация. **16.15** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **16.45, 22.15** Кругосветка по бездорожью. **19.05, 21.55** Автолайф. **3.00** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 1.25, 2.10, 3.00, 3.45, 4.30** Австралийские золотоискатели. **7.40, 8.25, 18.55** Австралийские охотники на лобстеров. **9.15, 9.40, 10.05, 10.30, 5.20** Гараж: Последний приют. **10.55, 11.40** Ржавые тачки на прокачку. **12.30, 13.20, 14.05, 14.55** Переделка старья. **15.45, 16.30, 17.15** Драндулеты на продажу. **18.05** Строительство гигантов. **19.40, 23.00** Ледовые викинги. **20.30** Речные чудовища. **21.20** Рыбалка со звездами. **22.10** Невероятная рыбалка. **23.50, 0.35** Дикая Монтана.

### HISTORY

**6.05, 7.20, 11.35** Расшифрованные сокровища. **6.55** Родовые проклятья. **8.10** Разгадка тайны пирамид. **9.00** Затерянные пирамиды ацтеков. **9.55, 10.45** 5000 лет истории Нила. **12.25, 13.20, 14.10, 15.00** Падение империи. **15.50, 16.40, 1.00, 1.50** Коварная Земля. **17.30, 18.15** Загадки Египта. **19.05, 20.05** Хит-парад военной техники. **21.00** Призрак из Каменного века. **21.55** Расшифровка тайн. **22.40** Побег от Гитлера. **23.35, 0.15** Музейные тайны. **2.40, 3.25, 4.15** Карты убийства. **5.05, 5.30** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.15, 7.00, 7.45, 8.30, 9.15, 10.00, 10.45, 11.30, 12.15, 13.00, 13.45, 14.30, 19.00, 19.45, 20.30** Ветеринар из Йоркшира. **15.15, 16.10, 17.10, 18.05** Дикая Канада II. **21.15** Суровая Австралия. **22.05** Дневники катастроф 2017. **23.00** Дневники катастроф 2016. **23.55** Невероятные встречи с животными. **0.45** Мутации погоды. **1.30, 4.55** Выживание в дикой природе. **2.20** В зоопарке Таронга. **3.10** Уличный ветеринар. **3.35, 4.05** Лучшие друзья собаки. **4.30** Постыдные проблемы питомцев.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 8.25, 9.15, 1.20** Авто-SOS. **6.45, 7.10** Фабрика еды. **7.35, 8.00** Сделать за один день. **10.05, 10.55** Самые лучшие суперкары. **11.45, 12.35** Расследования авиакатастроф. **13.25, 14.15** Инстинкт выживания. **15.05, 15.55** Экстремальный экспресс. **16.45, 17.35, 18.25** Путешествия с Гордоном Рамзи. **19.15, 20.10, 21.00** Затерянные сокровища Египта. **21.50** Царство мумий. **22.40, 23.35, 0.30** Дайан Фосси: Секреты в тумане. **2.05, 2.50** Эвакуация Земли. **3.40, 4.25** Враждебная планета. **5.15** Осушить океан: глубокое погружение.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.10, 23.10, 0.10, 1.10, 2.10, 3.10, 4.10, 5.05** Трофеи. **6.30, 8.35, 10.35, 12.35, 14.35, 16.35, 18.35, 20.35, 22.40, 0.45, 2.40, 4.35** Вкусные рецепты охотника. **7.30, 9.35, 11.35, 13.35, 15.35, 17.35, 19.35, 21.40, 23.40, 1.40, 3.40, 5.30** Вкусные рецепты рыболова. **8.00** На рыбалку с охотой. **13.05** Рыболовная Россия.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.10, 22.10, 2.20** Битва огородов. **6.35, 14.40, 18.40, 22.40, 2.50** Чай вдвоем. **6.45, 11.00, 19.00, 23.00, 3.05** Сладкая жизнь. **7.00, 11.15, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.45, 15.45, 19.45, 23.45, 3.50** Агротуризм. **8.00, 15.00** Огород круглый год. **8.20, 16.35, 20.30, 0.35, 4.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.50, 16.50, 20.50, 0.50, 4.50** Кухня народов СССР. **8.50, 17.05, 21.05, 1.10, 5.05** Дети на даче. **9.20** Травовед. **9.40, 13.35, 17.35, 21.40, 1.35, 5.30** Хозяин. **10.40, 12.35** Огород круглый год. **12.15, 16.15, 20.20, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **13.05** Чудеса, диковины и сокровища. **2.05** Домашняя косметика!

# нядзеля, 28 лютага

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«САШКИНА УДАЧА».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.10** «Зона Х». Итоги недели.
**10.40** Маршрут построен.
**11.20, 12.35** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** Дай пять.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** «Повод есть».
**16.45, 19.10** Х/ф **«ПОДСАДНАЯ УТКА».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«СУДЬБА ПО ИМЕНИ ЛЮБОВЬ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 19.40** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**9.55** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**
**10.40** «Три первых свидания». Реалити-шоу.
**11.30** Приключенческий фильм-фэнтези «Хроники Нарнии: Лев, Колдунья и платяной шкаф».
**13.50** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.
**14.55** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.40** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.35** Х/ф **«РОБОТ ПО ИМЕНИ ЧАППИ».**
**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«КАК ПРОГУЛЯТЬ ШКОЛУ С ПОЛЬЗОЙ».**
**23.25** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.20** Навіны культуры.
**8.20** «Храбрый оленёнок». Мультфільм.
**8.40** «Чалавек ніадкуль». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Балабешкі.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** Канцэрт «Танцы народаў свету».
**13.10** «Народны майстар». Валерый Мінкоў (разьбярства).
**13.40** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**14.40** Урачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.
**16.10** «Без асобай рызыкі». Мастацкі фільм [СТ].
**17.30** «Мяжа». Дакументальны фільм. Рэжысёр – Яўген Сяцько.
**18.10** «Не можа быць!» Мастацкі фільм [СТ].
**19.50** «Кадры жыцця».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Апошні рэйс «Альбатроса». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.30** «Теория заговора».
**10.20** ОНТ представляет: «Народный повар».
**11.40** «Видели видео?».
**13.50** Х/ф **«ПОБЕГ».**
**16.20** ОНТ представляет: «100 імён Беларусі». Генерал Корж.
**17.20** Премьера. «Я почти знаменит».
**19.05** «Точь-в-точь».
**20.00** Контуры.
**21.20** «Точь-в-точь». Продолжение.
**23.00** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.20** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «Их Италия».

## СТВ

**6.10** «Тайны Беларуси».
**8.00** Документальный проект.
**9.00** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00, 21.05** Документальный спецпроект.
**11.55, 13.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ОХОТА НА ЗВЕРЯ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**15.50, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ТЕХНОЛОГИЯ ВОЙНЫ».**
**19.30** «Неделя».
**22.45** «Засекреченные списки».
**0.25** «Секретные территории».

## Мир

**5.00** Т/с **«КЛАССНЫЕ МУЖИКИ».**
**5.20** Мультфильмы.
**6.50** Х/ф **«НА ДЕРИБАСОВСКОЙ ХОРОШАЯ ПОГОДА, ИЛИ НА БРАЙТОН-БИЧ ИДУТ ДОЖДИ».**
**8.50** «Рожденные в СССР». К 90-летию Михаила Горбачева.
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15** Х/ф **«НЕПОДСУДНЫЕ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**19.30, 1.00** Т/с **«ШТРАФНИК».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.10** «Тело человека».
**6.45** Беларусы.
**7.20** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.20** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».
**10.55** «Первая передача».
**11.25** «Чудо техники».
**12.15** «Дачный ответ».
**13.15** «НашПотребНадзор».
**14.10** Х/ф **«МЕРТВОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** Х/ф **«ПЕТРОВИЧ».**
**21.55** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**22.30** Х/ф **«ЧУЖОЕ ЛИЦО».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«НА СПИНЕ У ЧЕРНОГО КОТА».**
**8.50** Х/ф **«РИФМУЕТСЯ С ЛЮБОВЬЮ».**
**11.00** Х/ф **«УЧИЛКА».**
**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».
**16.10** Т/с **«АКУШЕРКА. НОВАЯ ЖИЗНЬ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях».
**21.45** «Тайны Беларуси».
**22.35** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.15** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Клиент. **7.05** Останься. **8.55** Мамма MIA! **11.00** Афера Томаса Крауна. **13.00** Дорогой Джон. **14.55** Не говори ни слова. **17.00** Зелёная миля. **20.25** Код Да Винчи. **23.10** Ангелы и Демоны. **1.35** Гонка. **3.25** Библиотекарь: В поисках копья судьбы.

### TV1000 ACTION

**5.10** Криминальное чтиво. **8.20** Телохранитель киллера. **10.35** Чужой: Воскрешение. **12.30** Прометей. **14.40** Чужой: Завет. **16.55** Падение Олимпа. **19.00** Падение Лондона. **20.40** Падение ангела. **22.50** Штурм Белого дома. **1.10** Противостояние. **2.40** Бойцовский клуб.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Пять невест. **7.25** На районе. **9.15** Граница. Таёжный роман. **11.40** Особенности национальной охоты. **13.25** Особенности национальной рыбалки. **15.15** Особенности национальной охоты в зимний период. **16.40** Ледокол. **19.00** Метро. **21.15** Экипаж. **23.50** Дyxless 2. **1.50** Элефант. **3.30** Цой.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **10.30** Х/ф **«ИГРА ЭНДЕРА». 12.45, 0.45** Х/ф **«МРАЧНЫЕ НЕБЕСА». 14.45** Х/ф **«КОД 8». 16.45** Х/ф **«РАЗРУШИТЕЛЬ». 19.00** Х/ф **«УНИВЕРСАЛЬНЫЙ СОЛДАТ». 21.00** Х/ф **«ЧУЖОЙ: ВОСКРЕШЕНИЕ». 23.15** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **2.15** «Дневник экстрасенса с Татьяной Лариной». **3.00** «Громкие дела». **3.45** «Городские легенды». **4.30** «Тайные знаки». **5.15** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 12.00, 20.00** Х/ф **«ЛУНОЙ БЫЛ ПОЛОН САД». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«Я РЯДОМ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ. СЧАСТЬЕ ВЗАЙМЫ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«ЗАПРЕТНАЯ ЛЮБОВЬ». 4.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ». 3.00** Х/ф **«100 ВЕЩЕЙ И НИЧЕГО ЛИШНЕГО». 5.00** Х/ф **«МУЖЧИНА С ГАРАНТИЕЙ». 6.35** Х/ф **«СЕМЬ УЖИНОВ». 8.15** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 10.20** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 11.55** Х/ф **«ИБИЦА». 13.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК». 15.20** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ». 17.20** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА». 19.30** Х/ф **«ГОД СВИНЬИ». 20.55** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 22.45** Х/ф **«МОЯ БОЛЬШАЯ ГРЕЧЕСКАЯ СВАДЬБА 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 1.15, 2.10, 3.10, 3.55, 4.55, 5.55, 6.55, 7.55** Т/с **«ШЕЛЕСТ». 8.50, 9.50, 10.50, 11.50, 12.55** Т/с **«КОНСУЛЬТАНТ». 13.55, 14.55, 15.55, 17.00, 18.00, 19.00, 20.05, 21.05, 22.05, 23.10** Т/с **«КРИК СОВЫ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.55** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«МИЛЛИАРД». 14.35** Т/с **«КОРНИ». 16.35** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **17.40** Х/ф **«SUPERНЯНЬ». 19.15** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 1.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.35** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.20** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.30** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Вест Хэм. **9.10** Футбол. На пути к ЧМ-2022. **9.40** Хоккей. КХЛ. СКА (Санкт-Петербург) – Динамо-Минск. **11.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **12.15** На пути к Токио. **12.50** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Переходный турнир. Ответный матч. **15.15** Пит-стоп. **15.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Автодор (Саратов) – Цмокі-Мінск. **17.40** Спорт-центр. **18.50** Игры «на вырост». **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Челси – Манчестер Юнайтед. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели. **22.05** Футбол. Чемпионат Англии. Шеффилд Юнайтед – Ливерпуль. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**1.30** Велоспорт. «Тур ОАЭ». 7-й этап. **2.30, 8.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира. Оберстдорф. HS 106. **3.30, 10.30** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-ди-Фасса. Женщины. Скоростной спуск. **4.15, 11.15, 14.30** Горные лыжи. Кубок мира. Банско. Мужчины. Слалом-гигант. **5.00, 9.30** Снукер. The Players Championship. 1/2 финала. **7.30** Лыжные гонки. Чемпионат мира. Оберстдорф. Мужчины. Скиатлон. **11.50** Горные лыжи. Кубок мира. Банско. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **13.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-ди-Фасса. Женщины. Супергигант. **16.00** Лыжное двоеборье. Чемпионат мира. Оберстдорф. HS 106. Команды. **18.00** Лыжные гонки. Чемпионат мира. Оберстдорф. Командный спринт. **18.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира. Оберстдорф. Микст. **20.45, 21.55** Снукер. The Players Championship. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.15, 7.50, 17.15, 1.15, 2.20** По обе стороны экватора. **6.50, 17.50** Трасса А2. **7.35, 9.50, 13.15, 16.55, 18.40, 23.25, 1.00, 3.35** Итоговые новости. **8.20** Вечер с Пикуленко. **10.05** Тест в большом городе. **10.40, 13.35** Тайный покупатель. **11.00, 21.15, 5.05** Комплектация. **11.30** Все включено. **11.50, 19.30, 22.50, 3.20** Вторичка. **12.05, 19.50, 23.05, 3.50** Электродрайв. **12.25, 20.10, 23.40, 4.00** Стальные парни. **13.50, 0.30** Испытание на прочность. **14.20** Автолайф. **14.40, 1.50** Тест на «Драйве». **15.15, 20.55, 4.50** Самообслуживание. **15.30** Гаражная команда. **16.25, 22.20** Кругосветка по бездорожью. **19.00, 5.30** Сити-тестер. **21.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 21.20** Ледовые викинги. **10.20, 22.55** Строительство гигантов. **11.10, 22.05, 1.15, 2.05, 2.50, 3.40, 4.25, 5.15** Австралийские охотники на лобстеров. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55** Австралийские золотоискатели. **20.30, 20.55** Нефритовая лихорадка. **23.45, 0.30** Дикая Монтана.

### HISTORY

**6.05, 6.55, 13.00, 13.45, 14.35, 1.00, 1.50** Расшифрованные сокровища. **7.45** Разгадка тайны пирамид. **8.35, 9.25** 5000 лет истории Нила. **10.15** Забытые королевства Центральной Америки. **11.20, 12.10** Коварная Земля. **15.25, 16.20** Падение империи. **17.00** Последний поход викингов. **18.05, 18.50, 19.40** Лондон: 2000 лет истории. **20.30** Даты, вошедшие в историю. **21.00, 21.50** Загадки Египта. **22.40** Побег от Гитлера. **23.30, 0.15** Музейные тайны. **2.40, 3.25, 4.15** Карты убийства. **5.05** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05, 3.10** Уличный ветеринар. **6.30, 7.35, 8.35** Великая американская оттепель. **9.40, 10.25, 11.15, 12.05** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **12.55, 13.55** Дикая Новая Зеландия. **15.00** Нераскрытое дело динозавра. **15.50, 16.45** Раскопки на полюсах. **17.40, 18.40** Когда киты ходили по суше. **19.35, 20.30, 21.20, 22.15, 23.05** Речные чудовища. **23.55** Невероятные встречи с животными. **0.45** Мутации погоды. **1.30, 4.55** Выживание в дикой природе. **2.20** В зоопарке Таронга. **3.35, 4.05, 4.30** Постыдные проблемы питомцев.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 1.15** Авто-SOS. **6.45, 7.05** Фабрика еды. **7.30, 8.00** Сделать за один день. **8.25, 9.15** История еды. **10.05, 10.55** Начало. **11.50, 12.40, 13.30, 14.20, 15.05, 15.55** Космос: Пространство и время. **16.45, 17.35, 18.30** Настоящий гений со Стивеном Хокингом. **19.15, 20.10** Египет с высоты птичьего полета. **21.00** Европа с высоты птичьего полёта. **21.50** Осушить океан. **22.45** Дикие животные Севера. **23.35, 0.25** Грядет шторм. **2.00, 2.45** Осушить океан: глубокое погружение. **3.30, 4.20, 5.05** Неизвестная планета Земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.05, 2.05** Рыболовная Россия. **6.30, 8.40, 10.35, 12.35, 14.30, 16.30, 18.35, 20.35, 0.40, 2.35, 4.40** Охота в Новом Свете. **6.55, 23.55** Зимняя рыбалка в Приволжье. **7.10, 11.05, 15.00, 19.00, 23.25, 3.10** Безграничная рыбалка. **7.40, 11.35, 15.30, 19.30, 3.40** Один день из жизни. **8.10, 12.05, 16.00, 20.05, 0.10, 4.10** Охота и рыбалка в. **9.05, 13.00, 17.00, 1.05, 5.00** В поисках лосося. **9.40, 13.30, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **18.00** Рыболовная Россия. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Экспедиции Андрея Старкова. **22.35** Люди дикого севера. **2.55** Дед Мазай и зайцы.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.10, 22.10, 2.20** Битва огородов. **6.35, 14.40, 18.40, 22.40, 2.50** Чай вдвоем. **6.45, 11.00, 19.00, 23.00, 3.05** Сладкая жизнь. **7.00, 11.15, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.45, 15.45, 19.45, 23.45, 3.50** Агротуризм. **8.00, 12.15, 16.15, 20.15, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 16.35, 20.30, 0.35, 4.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.50, 20.50, 0.50, 4.50** Кухня народов СССР. **8.50, 13.05, 17.05, 21.05, 1.10, 5.05** Дети на даче. **9.20** Травовед. **9.40, 13.35, 17.35, 21.40, 1.35, 5.30** Хозяин. **10.40, 16.50** Огород круглый год. **12.35, 14.55** Огород круглый год. **2.05** Домашняя косметика!

# «Пасля кожнага скрыпу ключа ў дзвярах здаецца, што ідуць менавіта за табой»

## Прапануем дзённікавыя запісы вязня Вілейскай турмы

ВІЛЕЙКА

**Юзаф Кішкурна жыў у Паставах. 28 верасня 1940 года яго арыштавала НКВД. Праз месяц пасля папярэдняга дазнання ў Паставах Юзафа адправілі этапам у Вілейскую турму. Захаваліся яго дзённікавыя запісы пра знаходжанне там.**



Фота sakharov-center.ru.

Помнік аўтарства Барыса Цітовіча, прысвечаны закатаваным у Вілейскай турме.

**7.10.1940**

«...Незаўважна, за размовамі, мы даехалі да Вілейкі. Канваіры загадалі выйсці з вагона, пасля чаго строем адвялі да брамы турмы, але там не аказалася свабодных месцаў. Прыйшлося чакаць каля варот да поўначы. Нарэшце выклікалі чацвярых: **Вайцяховіча**, **Парша**, **Пісарчыка** і мяне. Запусцілі ўнутр і за намі зачыніліся дзверы. Цікава, ці надоўга? Заводзяць у пямяшканне лазні. Там даглядаюць, забіраюць верхнюю вопратку і правяраюць суправаджальныя дакументы. Пасля гэтых працэдур дазваляюць там жа, у лазні, легчы спаць. Холадна.

Але не прайшло і паўгадзіны, як нас пабудзілі. Абвяшчаюць памыўку. Лазня ў гэты час рамантавалася і таму не абагравалася. У памяшканні вельмі холадна. Нам выдалі па тазіку гарачай вады. Мы спехам, сяк-так, памыліся і бегам апранацца, але адзення на месцы не аказалася. Яго аднеслі на дэзынфекцыю.

> **Мы цярпліва чакаем, калі яго вернуць, і ў гэты час Вайцяховіч ціха мне кажа: «Мой ты Юзічак, вось мы з табой уліплі дык уліплі».**

Пасля таго як мы апрануліся, пачынаюць па адным выклікаць. Мы развітваемся, махаем адзін аднаму рукой і ідзём па калідорах, некуды ў нетры турмы. Мяне запіхваюць у камеру №12 ужо пад раніцу. Там у дадзены момант знаходзяцца 48 няшчасных. Цесната жахлівая.

У мяне адразу ж цікавяцца, адкуль я і хто такі. Я адказваю. У камеры аказваюцца двое маіх знаёмых – пан **Ейшчман** і **Кжыштаф Лукасік**. Завязваецца размова. Сукамернікі цікавяцца, што адбываецца ў свеце і ўвогуле на волі. Потым пачынаецца звычайнае турэмнае жыццё: прыбіральня, хлеб, чай, вячэра...

> **Ежа тут вельмі дрэнная, няякасная, але мне пакуль есці зусім не хочацца. Апетыту не будзе яшчэ доўга.**

Пачынаю знаёміцца з сукамернікамі. Яны расказваюць пра метады вядзення следства, пра тое, што людзей тут збіваюць, мучаць, абражаюць. Я падумаў, што і мяне, пэўна, не абміне гэтая доля, і да мяне дойдзе чарга.

Ну, а пакуль я мужна чакаю. Як будзе весціся ў дачыненні да мяне следства, не так ужо і важна. Цяпер мяне больш хвалюе лёс маёй сям'і. Няўжо і ім, нявінным істотам, прыйдзецца звездаць тое ж, што і мне? Я малюся, каб іх не арыштавалі, каб яны былі шчаслівыя. Я ж мужчына, значыць, буду трываць да канца, таму што, мабыць, так ужо даспадобы богу. (...).

Заводжу знаёмствы з людзьмі з нашага Пастаўскага і суседніх паветаў: **Паўлоўскі Віктар** – сын Антона, **Роліч Ян** – сын Тэадора, **Берняковіч Уладзімеж**, **Платковіч**, **Жамайціс Ігнацы** – сын Антонія з Мегелян, **Працуковіч Чэслаў** – сын Томаша, **Зяневіч**, **Януковіч**, **Станкевіч Віктар**, **Званскі Клаўдыюш** з-пад Дзісны [...]».

Далей у запісе яшчэ шмат імёнаў. Згодна з дзённікам, у вілейскай турме сядзелі людзі з Вільні, Варшавы, Докшыцаў і нават пракурор з Беластока **Ян Яневіч**. З прадстаўнікоў нашага рэгіёна згадваюцца **Нарэйка** з Вілейкі, **Юзаф Жук** і **Вітольд Несцяроўскі** з Кабыльніка, **Адам Альшэўскі** з Даўгінава, **Унук** з вёскі Унукі, што пад Мядзелам, **Адамовіч** з Вілейкі.

Далей пад той жа датай чытаем: «А зняволеныя ўсё прыбываюць у турму і прыбываюць. Іх колькасць у нашай камеры таксама расце і даходзіць да 73 чалавек. Памеры камеры ўсяго 7х5,35 м.

Адносна спакойнае жыццё для мяне працягвалася да 22.X.1940 года. Ноччу, калі ўжо ўсе ляглі спаць, мяне нечакана выклікаюць на допыт. Дарэчы, астатніх таксама выклікалі ў асноўным па начах.

> **Мяне вядуць па калідорах кудысьці ўніз, і неўзабаве я апынаюся ў склепе. У той момант мне чамусьці прыгадаліся апавяданні пра савецкія турмы ў склепах.**

Так здарылася і са мной, я апынаюся сам-насам са следчым у склепе.

> **Вітаюся, але замест адказу атрымліваю два ўдары – у жывот і па галаве. Пасля гэтага следчы задае мне пытанне – за што арыштавалі? І тут жа загадвае мне прысядаць 60 разоў. «Ты будзеш займацца фізкультурай, а я буду задаваць табе пытанні», – кажа ён.**

Але пытанняў так і не было. Замест іх следчы зачытаў мне абвінавачанне, згодна з якім я абвінавачваўся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і ў незаконным перасячэнні дзяржаўнай мяжы, гэта значыць, у злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 74 і 120 КК.

> **Апоўначы следчы адпраўляе мяне назад у камеру і пагражае, што пагаворыць са мной заўтра.**

Але заўтра не выклікаў, прымусіў перажыць гэта жахлівае пачуццё чакання, калі пасля кожнага скрыпу ключа ў дзвярах здаецца, што ідуць менавіта за табой (...)».

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле сайта «Паставы і аколіцы».**

*Заканчэнне будзе.*

---

● КАЛЯНДАР

**19 ЛЮТАГА**

**1890.** У вёсцы Барані, цяпер Астравецкі раён, нарадзіўся **Казімір Сваяк (Кастусь Стаповіч)**, нацыянальны дзеяч, паэт, каталіцкі святар.



**20 ЛЮТАГА**

**1922.** Сейм Сярэдняй Літвы прыняў рашэнне пра далучэнне яе да Польшчы.

**21 ЛЮТАГА**

Міжнародны дзень роднай мовы. Абвешчаны ў лістападзе 1999 года рашэннем 30-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА з мэтай абароны моўнай і культурнай разнастайнасці.

**22 ЛЮТАГА**

**1883.** Нарадзіўся **Станіслаў Булак-Балаховіч**, беларускі, польскі і расійскі вайсковы дзеяч. Афіцэр кавалерыі Рускай імператарскай арміі, генерал-маёр Белай арміі, генерал Асобнага атрада БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г., удзельнік грамадзянскай вайны ў Іспаніі на баку генерала Франка. Таксама вядомы як Бацька Булак-Балаховіч.

**23 ЛЮТАГА**

**1907.** Нарадзіўся **Станіслаў Станкевіч** (в. Арляняты, Ашмянскі павет, цяпер Смаргонскі раён – 6 лістапада 1980), беларускі грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Псеўданімы: Алесь Крыга, Дзівасіл, С. Крушыніч, А. Скіба, Алесь Скіба, Раман Шарупіч ; крыптонімы: Ст. Ст., Др. Ст. Ст.

**24 ЛЮТАГА**

**1935.** Нарадзіўся **Рыгор Барадулін**, беларускі паэт.

**25 ЛЮТАГА**

**1836. Сэмуэль Кольт** атрымаў патэнт на шасцізарадны рэвальвер

**1906.** Нарадзіўся **Павел Каруза** (25 лютага 1906, в. Ваўкалатка Вілейскага раёна, па іншых звестках – Докшыцкі раён – 20 лютага 1988, Вільня), беларускі фалькларыст, кампазітар, грамадска-палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст. У 1947-48 працаваў у Маладзечанкім доме творчасці дырыжорам абласнога ансамбля песні і танца. У СССР падвяргаўся палітычным рэпрэсіям. Рэабілітаваны.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# У Вілейскай ЦРБ – новыя тэсты на каронавірус. Чым яны лепшыя?

ВІЛЕЙКА

**Днямі Вілейская ЦРБ закупіла сто колькасных экспрэс-тэстаў на каронавірус. У бальніцы нам расказалі, чым яны лепшыя за ранейшыя.**

– Мы набылі новыя тэсты для вызначэння антыцел. Яны карэйскай вытворчасці. Прынцыповае адрозненне ад ранейшых, якасных, тэстаў у тым, што цяпер мы бачым колькасць антыцел у крыві ў адзінках. А з якаснымі тэстамі вызначалася толькі наяўнасць M і G антыцел, але наколькі моцны імунітэт яны забяспечваюць, медыкі зразумець не маглі. А цяпер могуць, – тлумачыць доктар лабараторнай дыягностыкі Вілейскай ЦРБ **Вікторыя Клімовіч**.

Па словах доктара, згодна з даследаваннямі, праведзенымі вытворцамі тэстаў, калі імунаглабуліну M больш, чым 1,1, вынік лічаць станоўчым – чалавек хворы. Калі менш за гэты паказчык – вынік адмоўны. Нагадаем, што імунаглабулін M паказвае, што чалавек у працэсе хваробы, наяўнасць імунаглабуліну G сведчыць, што чалавек перахварэў.

– Колькасць – гэта вельмі зручна, – адзначае доктар. – Калі мы рабілі якасныя тэсты, здаралася так, што палоска, якая вызначае наяўнасць імунаглабуліну M, была ледзь заўважная, такая, што не заўсёды вызначыш, ёсць у крыві гэты імунаглабулін ці не.

Доктар рэкамендуе абавязкова зрабіць тэст тым, хто сумняваецца, ці патрэбная яму вакцынацыя ад каронавірусу.

– Людзі часам думаюць, што не трэба прышчапляцца, калі ўжо перахварэў.

**Але калі ў перахварэлага антыцел G у крыві менш за 20 адзінак, яны ўжо не вельмі абароняць чалавека ад паўторнага захворвання.**

Шмат з тых, каму мы рабілі, мелі па 11-13 адзінак. У такім выпадку імунітэту практычна няма і можна захварэць зноў. Таму патрэбная вакцынацыя. Калі ж антыцел G больш за 20, то пакуль можна не прышчапляцца. Яны абароняць. А ўвогуле, на станцыях пералівання крыві кроў на антыцелы ў донараў бяруць толькі тую, дзе канцэнтрацыя не менш за сорак, – тлумачыць Вікторыя Клімовіч.



Доктар лабараторнай дыягностыкі з Вілейскай ЦРБ лічыць, што тэсты асабліва патрэбныя тым, хто сумняваецца, ці прышчапляцца ад каронавіруса.

Зрабіць тэст можна ў паліклініцы. Працэдура каштуе 26 рублёў 80 капеек. Тэстаў, па словах доктара, пакуль дастаткова. Таму можна прыходзіць нават без папярэдняга запісу. Лабараторыя працуе ад 14:00 да 16:00. Вынік будзе вядомы каля 17:00.

Як расказалі ў ЦРБ, лабараторныя тэсты тут бяруць толькі па прызначэнні доктара і адвозяць іх у Мінск.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Дайджэст: Пытанне пра вайсковую базу, суды над журналісткамі і банкірам

**Прыгадваем, што адбывалася ў Беларусі за апошні тыдзень.**

Па традыцыі прапануем вам агляд падзей, што адбываліся ў Беларусі на мінулым тыдні.

### Расія правядзе перамовы пра арэнду сваёй вайсковай базы на Вілейшчыне

Прэм'ер-міністр Расіі **Міхаіл Мішусцін** даручыў Міністэрству абароны Расіі супольна з Міністэрствам замежных спраў правесці перамовы аб працягу выкарыстання двух вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх – база ў Вілейцы. Адпаведны ўказ апублікавалі 16 лютага. У распараджэннях, датаваных 12 лютага, гаворыцца пра ўхваленне папярэдне прапрацаваных з беларускім бокам праектаў пратаколаў аб выкарыстанні аб'ектаў. Тэрміны збіраюцца працягнуць на 25 гадоў з моманту падпісання і прыняць аўтаматычны працяг на наступныя пяцігадовыя перыяды, калі дамову не разарве адзін з бакоў, папярэдзіўшы за год да сканчэння пяцігадовага перыяду. Такі пратакол мае набыць моц ад 31 мая 2021 года, калі бакі на яго пагодзяцца. Калі і дзе мае адбыцца падпісанне новага пратакола, не паведамляюць. Ранейшыя дамовы дзейнічаюць да 7 чэрвеня 2021 года.

### Правялі Убеларускі народны сход

11-12 лютага **Аляксандр Лукашэнка** правёў Усебеларускі народны сход. У сваім выступленні ён некалькі разоў згадваў наш рэгіён. Казаў пра тое, што Крэўскі замак працягнуць рэстаўрываць і што трэба працаваць над тым, каб маладзечанцы змаглі атрымліваць якасную меддапамогу ў Мінску. Таксама адзначаў, што расійская вайсковая база на Вілейшчыне вельмі патрэбная Беларусі.

### Пачаўся суд над Віктарам Бабарыкам

18 лютага пачаўся суд над банкірам і палітыкам Віктарам Бабарыкам. Справу разглядае Вярхоўны суд. Журналістаў незалежных СМІ на суд не пусцілі. Па «справе Белгазпрамбанка» праходзяць восем фігурантаў. Віктар Бабарыка абвінавачваецца ў адмыванні сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, і атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Паводле версіі следства, Віктар Бабарыка, будучы старшынёй праўлення Белгазпрамбанка, стварыў з ліку сваіх намеснікаў арганізаваную групу з мэтай сістэматычна атрымліваць хабар. За 16 гадоў набегла сума больш за 30 мільёнаў рублёў. Таксама адзначаецца, што Віктар Бабарыка за суму звыш за мільён рублёў купіў нерухомасць у Мінску, каб легалізаваць даход, атрыманы злачынным шляхам.

### Пракурор папрасіў для журналістак па два гады зняволення

Працягваецца суд над журналісткамі «Белсата» **Дар'яй Чульцовай** і **Кацярынай Андрэевай**. Нагадаем, што дзяўчат абвінавачваюць у арганізацыі масавых беспарадкаў і ў тым, што яны вялі прамую трансляцыю з акцыі пратэсту. На пасяджэнні 17 лютага суддзя **Наталля Бугук** зачытала па-беларуску аналіз стрыма лінгвістам. Аўтар лінгвістычнай экспертызы – прадстаўнік Акадэміі навук акадэмік **Аляксандр Лукашанец**.

Паводле яго, словы Андрэевай мелі «аб'ектыўную мадальнасць» і «нейтральны характар». Эксперт-мовазнаўца адзначыў, што словы Кацярыны Андрэевай не ўтрымліваюць заклікаў да нейкіх актыўных дзеянняў. Яна проста апісвала сітуацыю. Пракурор запатрабавала для Кацярыны Андрэевай і Дар'і Чульцовай па два гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Паводле tut.by і «Нашай Нівы».**

## Сваякі з Вялікабрытаніі шукаюць Тамару Папкову

### Магчыма, нашы чытачы змогуць дапамагчы

ВІЛЕЙКА

**Вікторыя Гулецкі жыве ў Вялікабрытаніі. Яна шукае сваю стрыечную цётку Тамару Папкову, якая вырасла і жыла ў Вілейцы да 1995 года.**

– Тамара Папкова – стрыечная сястра маёй мамы. Пра Тамару ведаю, што ёй цяпер каля 70 год. Вырасла і жыла ў Вілейцы, працавала настаўніцай. **Папкова** – яе прозвішча па мужу, дзявоцкага не ведаю. Бацьку Тамары звалі **Алек**, маму – **Рыза**, – расказвае Вікторыя.

**Па словах жанчыны, яе дзядуля – беларус. З'ехаў у Вялікабрытанію пасля Другой сусветнай. Мама Вікторыі да 1995 года перапісвалася са сваёй кузінай Тамарай з Вілейкі, а пасля кантакты прыпыніліся.**

Давайце дапаможам Вікторыі знайсці вілейскіх сваякоў. Калі вам нешта вядома, пішыце нам паведамленні ў сацсетки або звяжыцеся па тэлефоне **(8-0176) 53-78-05**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**





Фота забяспечанае Вікторыяй ГУЛЕЦКІ.

Тамара Папкова ў розныя часы.



Вярбіцкі лічыць, што яго справа – гэта паказальны працэс.

# Сведкі даюць паказанні. Што адбываецца на судзе гальшанца, якога абвінавачваюць у тэрарызме

**11 і 16 лютага ў судзе Смаргонскага раёна працягвалі разглядаць крымінальную справу па чатырох артыкулах у дачыненні да гальшанца Івана Вярбіцкага. У гэтыя дні давалі паказанні сведкі, а суд вывучаў доказы па справе.**

### Пасяджэнне 11 лютага

Сведка **Шульжыцкі** працуе настаўнікам фізкультуры. 21 кастрычніка 2020 года ён ішоў па цэнтры Ашмянаў, калі да яго пад'ехалі супрацоўнікі міліцыі і папрасілі паўдзельнічаць у ператрусе ў якасці панятога. Шульжыцкі бачыў, як Вярбіцкі рве дакумент, які яму далі супрацоўнікі, а пасля разбівае тэлефон аб машыну. Па словах сведкі, аніякай агрэсіі з боку абвінавачанага не заўважыў. Шульжыцкага адвезлі назад у Ашмяны, далей ён камунікаваў толькі са следчым на папярэднім следстве.

Адвакат **Крывалапаў** хадайнічаў аб выкліку сведак **Мулінковай** і **Мардовіч**, якія былі ў чаце «Ашмяны», дзе абвінавачаны пакінуў каментары, якія ляглі ў аснову крымінальнай справы. Мулінкова і Мардовіч патлумачылі, што не аднесліся да гэтых допісаў сур'ёзна. Абедзве сказалі, што ўспрынялі каментары ў тэлеграм-чаце як жарт.

Абаронца Вярбіцкага заўважыў, што паведамленні Вярбіцкага дагэтуль застаюцца даступнымі ў чаце «Ашмяны».

– Мой падабаронны абвінавачваецца не ў закліках да акту тэрарызму. Яго абвінавачваюць у асабліва цяжкім злачынстве. Апошні раз такое абвінавачанне тычылася выбуху ў метро ў Мінску. Органы папярэдняга следства і далей дзяржаўны абвінаваўца ўспрымаюць дзеянні майго падабароннага як надзвычай павышаную грамадскую небяспеку – акт тэрарызму. То чаму не прынятыя ўсе меры, каб гэтыя допісы ў тэлеграм-канале былі ліквідаваныя? – запытаўся абаронца.

> Сам Вярбіцкі заявіў, што суд па яго справе – гэта паказальны працэс.

У судзе прагледзелі відэазапіс ператрусу, суддзя яшчэ раз даследавала вынікі камп'ютарна-тэхнічнай экспертызы. Дзяржаўны абвінаваўца хадайнічаў аб выкліку **Аляксея Бяляева**, які быў панятым пры ператрусе ў Вярбіцкага.

### Пасяджэнне 16 лютага

На судовае пасяджэнне 16 лютага прыехалі прадстаўнікі дзяржаўных СМІ – «Беларусь 1» і смаргонскае тэлебачанне. На пасяджэнне гэтыя журналісты не засталіся, знялі толькі перад ім Вярбіцкага. На пасяджэнні заслухоўвалі паказанні яшчэ двух сведак.

Аляксей Бяляеў праходзіць тэрміновую службу ў войску. Ён удзельнічаў у ператрусе ў доме Вярбіцкага. Бяляеў успамінае, што абвінавачаны адмаўляўся адчыняць дзверы дома. У дом Вярбіцкі пусціў супрацоўнікаў толькі пасля прыезду старшыні сельвыканкама. Бяляеў бачыў, як міліцыянеры знайшлі патроны і порах.

**Аляксандр Красоўскі** – оперупаўнаважаны Ашмянскага РАУС. Ён двойчы прыязджаў на ператрус да Вярбіцкага. Красоўскі бачыў, як абвінавачаны парваў пастанову аб ператрусе і разбіў свой мабільны тэлефон. Пасля міліцыянеры разам з Вярбіцкім паехалі ў Ашмяны за новай пастановай і вярнуліся назад у Гальшаны. Падчас ператрусу менавіта Красоўскі знайшоў у доме Вярбіцкага патроны і порах. Ён памятае, што Вярбіцкі ўвесь час на знойдзеныя боепрыпасы казаў, што яны маглі застацца пасля смерці бацькоў.

Абаронца хадайнічаў пра тое, каб дадаць да справы скрыншоты перапіскі ў тэлеграм-каналах, у якіх пакінуў паведамленні Вярбіцкі. Гэта хадайніцтва суд ухваліў.

> Крывалапаў хадайнічаў аб правядзенні псіхалагічна-лінгвістычнай экспертызы, каб даць ацэнку перапісцы Вярбіцкага і дадаць да матэрыялаў справы псіхалагічны партрэт абвінавачанага.

Вярбіцкі паясніў, што можа даць спасылкі на свае акаўнты ў сацыяльных сетках, каб экспертыза была ўсебаковая. Суддзя адхіліла хадайніцтва.

У разборы павінны прайсці спрэчкі бакоў, Вярбіцкі выступіць з апошнім словам. Дату і час наступнага пасяджэння суддзя не агучыла. Яна ўдакладніла, што ўдзельнікі працэсу даведаюцца аб гэтым пазней.

### У чым абвінавачваюць Вярбіцкага?

14 кастрычніка жыхар Гальшанаў Іван Вярбіцкі пакінуў некалькі каментароў у тэлеграм-чатах «Ашмяны» і «Астравец для жыцця», якія абвінавачанне расцаніла як акт тэрарызму. 21 кастрычніка Вярбіцкі разарваў пастанову аб ператрусе. У той жа дзень у доме бацькоў у Гальшанах, дзе жыў Вярбіцкі, падчас ператрусу знайшлі некалькі дзясяткаў патронаў і порах.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Чацвёртую дачку назвалі ў гонар



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Сям'я Стасілевічаў злева направа. На руках у Яраслава дачка Гвінет, Фабіяна, Лігія. На руках у Настассі – нованароджаная Ніколь-Марыя.

**У сям'і Настассі і Яраслава Стасілевічаў 22 студзеня нарадзілася чацвёртая дачка – Ніколь-Марыя. І яны ўжо настроеныя, што неўзабаве з'явіцца і пятае дзіця. Як маладая сям'я сумяшчае выхаванне дзяцей і адстойванне грамадзянскай пазіцыі, чытайце ў нашым артыкуле.**

МАЛАДЗЕЧНА

Сцяну над канапай у гасцінай Стасілевічаў Яраслаў размаляваў краявідам замка. Дзяўчынкі таксама далучыліся да творчага працэсу і дапамагалі тату. Як жартуе Настасся – нават фламастары падабралі ў колер. Стаіць фартэпіяна – музыкант у сям'і Настасся. На кухні гаспадыня ставіць торт, які спякла сама. Дзяўчынкі падыходзяць да стала і частуюцца кавалачкамі з рознакаляровымі пацерачкамі, пакуль дарослыя даюць інтэрв'ю.

### «Я пайду пасумую»

– З адным дзіцем складаней, чым з чацвярымі, – дзеліцца Настасся. – Не ведаю, як гэта працуе. Напэўна, калі нарадзілася першае дзіця, не маеш досведу і прывык жыць для сябе. Увесь твой час у тваім распараджэнні. Калі невялікая розніца паміж дзецьмі, ты яшчэ не паспяваеш зноў адчуць смак свабоды, табе прасцей. А нам яшчэ дзеці залатыя дасталіся.

Маці дадае, што нават залатыя дзеці заўсёды знойдуць, з-за чаго пасварыцца:

– Едзем у машыне, адна кажа: «Мой месяц!», другая: «Не, мой!». Месяц на небе дзеляць! Калі выбіраемся на вуліцу, збірацца можам гадзіну – адна апранулася, другая ўжо распранулася. Яшчэ ж дзяўчынкі – не хачу гэту шапку, а гэтыя пальчаткі не падыходзяць. Пасля скочваемся з пятага паверха. Адна з прычын, чаму свой дом хочам, – каб з першага паверха выкочвацца. Жыццё ў нас віруе. Я разумею, што цяпер у мяне такі перыяд, што я выхоўваю дзетак, і ў гэтым маё пакліканне.

У кожнай дзяўчынкі свой характар. Мама заўважыла адметнасці характару з першых месяцаў па тым, як дочкі рэагавалі на ежу і пачыналі засвойваць новыя навыкі.

– Старэйшая можа сказаць: «Я пайду пасумую». Ідзе, адна ў пакоі пабудзе, вяртаецца – усё, пасумавала. Фабіяна, калі сумуе, то гучна, усе павінны чуць. А Гвінэт калі закрыўдуе, то і на ручкі не пойдзе. Вельмі разумныя дзеці, так ловяць рэакцыю дарослых. Бацькі не казалі ў дзяцінстве, што выхоўваць трэба не дзяцей, а саміх сябе, бо дзеці ўсё капіруюць.

### Самі са шматдзетных сямей

Настасся нарадзілася старэйшай сярод семярых дзяцей – чатыры дзяўчынкі і тры хлопчыкі. Яе маці працуе медсястрой, тата – вартаўнік. Даводзілася быць самастойнай – самой хадзіць у школу і гурткі, дапамагаць даглядаць маленькіх. Гэта справа дзяўчынцы не вельмі падабалася, хацелася хадзіць на розныя заняткі, секцыі. Смак мацярынства яна адчула на сваіх дзецях.

У сям'і Яраслава чацвёра дзяцей – два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Яраслаў нарадзіўся другім. Маці атрымала хімічную адукацыю, бацька – інжынера-электрыка. Цяпер маці займаецца садам у доме адпачынку.

Маладая пара пазнаёмілася ў царкве. Калі ажаніліся, Настассі было 19 год, а Яраславу – 24.

– Калі я нарадзіла старэйшую дачку, унутры як быццам нешта прачнулася. У дзевяць месяцаў яна пачала хадзіць і не давалася абдымацца, а мне так крыўдна было.

– Гэта толькі старэйшая не любіць абдымкі, – удакладняе Яраслаў.

– Я нарадзіла тры тыдні таму і разумею, што я яшчэ пайду ў радзільню.

– Першага мы чакалі хлопчыка, і па ўльтрагукавым даследаванні паказвала, што будзе хлопчык. А атрымалася чатыры дзяўчынкі.

### Як выбіралі імёны

Старэйшую дачку Стасілевічы назвалі Лігія, ёй цяпер чатыры з паловай гады. Другую – Фабіяна, ёй два з паловай гады. Трэцяй, Гвінет, паўтара года. Чацвёртай дзяўчынцы дасталася двайное імя, і другая яго частка – у гонар Марыі Калеснікавай. Так у сям'і з'явілася і Ніколь-Марыя.

Імёны дочкам выбіраў Яраслаў. Крытэрыі былі такія: такога імя не павінна быць ні ў каго са знаёмых, каб усе пачыналіся з іншай літары, і каб не скарачаліся. Дактары казалі, што дачка народзіцца ў 2020 годзе, але атрымалася крыху пазней.

– Усе роды праходзілі вельмі добра і лёгка. Ішла, як на свята. А ў радзільні ўсе знаёмыя. І жартавалі падчас родаў, калі падавалася, што зусім нязручна жартаваць.

### Што з жыллём

Стасілевічы жывуць у трохпакаёўцы, якая дасталася ад бацькоў.

– Мы стаялі на чарзе на жыллё, яна падышла ў маі, – расказвае гаспадар. – Але тады нічога не будавалася, і хутка скончылася фінансаванне.

– Мы зацікаўленыя ў тым, каб купіць дом. З дзеткамі гэта лепш. Па заканадаўстве мы гэта можам, але цяпер банк не выдае крэдыты.

### Праца і захапленне

Настасся выйшла замуж, як скончыла маладзечанскі музкаледж па спецыяльнасці домра. Уладкавалася выхавальніцай у садок, адпрацавала паўтара года. Просім расказаць, як гэта было, але размову перахоплівае муж:

– Давайце я вам раскажу пра працу выхавальніцай. Гэта нейкая катарга! Зранку адводжу яе на працу, еду на сваю працу, вяртаюся дамоў, Наста яшчэ на працы. У гадзін 6, 7 вечара, а бывала і пазней, забіраю яе з працы. Там бальнічныя, замены. Аднойчы яшчэ ўзяла нейкую працу дамоў правяраць. І за гэта заробак быў 200 рублёў з нечым!

Настасся восенню закончыла курсы цырульнікаў і ў сваіх сацыяльных сетках дэманструе розныя прычоскі, якія можа зрабіць.

– Прычоскі сталі цікавыя яшчэ калі ў каледжы вучылася, а паддоследнымі былі мае сёстры.

> **– Калі на суткі патрапіў, Насці трэба было давучвацца на курсах у Мінску. Вельмі хваляваўся, каб бабулі справіліся і змаглі адпусціць.**

Яшчэ жанчына гатуе кандытарскія вырабы – некаторыя нават замаўляюць іх для сябе.

– Люблю парадаваць сваіх любімых сало-

# Марыі Калеснікавай



Гвінет на руках у мамы.



Фабіяна частуецца торцікам.

дзенькім. Нідзе гэтаму не вучылася. Проста дома ж трэба нечым займацца. Я не магу сядзець на месцы. Спачатку было пару капрызаў – вяршкі пераўзаб'еш, выльеш, перарабляеш. Але навучылася. І ўсім падабаецца – і дзеткам, і мужу, ды і я люблю салодкае да кавы.

Яраслаў пасля арміі пайшоў працаваць цесляром на будоўлю. Заробкі сталі маленькія, таму змяніў працу. Цяпер займаецца бытавой хімчысткай канапаў і дываноў.

Таксама мужчына атрымаў адукацыю ў Тэалагічным інстытуце хрысціян веры евангельскай, плануе працягнуць вучобу ў магістратуры.

– Мой бацька стаў пастарам у 30 год, цяпер ён намеснік епіскапа па Мінскай вобласці. У нас няма такога дзялення на прыхаджан і святароў. Пастар – асоба, якая мае аўтарытэт. Ім становяцца не таму, што прызначылі, а таму, што самі прыхаджане прынялі.

### Кнігі для шматдзетнага бацькі

Яраслаў любіць чытаць. З апошняга прачытаў «Грамадства спажывання» Бадрыяра:

– Тры сотні старонак, што мы няправільна спажываем, што вакол адно спажыванне. Ну насамрэч гэта не так. І як трэба правільна спажываць? Адказу не знайшоў. Але трэба было прачытаць, на гэту кніжку так шмат спасылаюцца.

– У Ярыка такая рыса – калі пачаў чытаць кніжку, нават калі не падабаецца, дачытае. Калі праводзім сямейны вечар, звычайна чытаем дзіцячыя кніжкі. Можам схадзіць пагуляць ці, напрыклад, у дзіцячы цэнтр – дзеці паскачуць, бацькі адпачнуць.

### Што змянілася ў 2020 годзе

**– Калі вы зразумелі, што ў 2020 годзе ўсё змянілася?**

– Калі ўбачыў ланцуг салідарнасці каля касцёла, – расказвае Яраслаў. – Перад выбарамі не верыў, што будзе ўздым. Думаў, будзе, як у 2015 годзе. Калі нехта абураўся, што Бабарыку не зарэгістравалі, думаў – вядома, не зарэгістравалі, што тут дзіўнага, так заўсёды ж было. Севярынца пасадзілі – на якіх выбарах яго не саджалі? Пасля 9 жніўня адключаюць інтэрнэт. Паставіў на наступны дзень VPN, гартаю ноччу тэлеграм-каналы і бачу, што адбывалася. Пасля пачалі з'яўляцца сведчанні пра гвалт – міліцыя сябе і раней жорстка паводзіла, але такога не было ніколі. У адзін з наступных дзён еду па горадзе і бачу, што каля касцёла стаіць ланцуг салідарнасці. Думаю, ну калі ў Маладзечне выйшлі, справа сур'ёзная. Кажу жонцы – ну, усё, дастаём сцяг.

**– Я запомніла адзін з першых дзён пасля выбараў. Глядзім фільм, думаем, нічога ж усё роўна не будзе. І тут заходзім у інтэрнэт і бачым, што ў Мінску робіцца. Фільм прайшоў фонам.**

– Памятаю, калі маладзечанцы ішлі перадаваць петыцыю ў выканкам. Насустрач ехала міліцэйская машына, пабачылі натоўп, развярнуліся і паехалі. Быў момант.

### Муж трапляе на суткі, а ты цяжарная і маці траіх дзяцей

Яраслава затрымалі 23 верасня на маладзечанскай плошчы падчас пратэснай акцыі з нагоды інаўгурацыі. Суд пастанавіў, што мужчына парушыў артыкул 23.34 «Парушэнне парадку і арганізацыі масавых мерапрыемстваў» і прызначыў пакаранне ў выглядзе арышту на сем сутак. Маладзечанец віну не прызнаў.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Торт з пацеркамі Настасся прыгатавала сама.

– Дзеці былі цэлы дзень дома, трэба было іх выгуляць, – прыгадвае 23 верасня Настасся. – У мяне ўжо і планаў было на вечар, пакупкі распланавала. Яны кажуць, што калі будзеце супраціўляцца, прыменім сілу. Разумею, што дзецям у машыне гэта бачыць не трэба.

– Міліцыянеры мне такія – мы адпусцім, установім асобу толькі. Разумею – ага, як жа.

– У мяне ж ні правоў кіроўцы з сабой, ні акуляраў, сяджу ў машыне з трыма дзецьмі, яны крычаць. Старэйшая крычыць: «Куды гэтыя дзядзькі з палкамі, каторыя б'юць людзей, забіраюць нашага тату?». Яна пасля і перад сном пастаянна: «Дзе тата?». Я сказала, што тата ў санаторыі, бо плаціць усё роўна давядзецца. Разумею, што за руль не сядзеш – спыняць на павароце, яшчэ правы забяруць. Ды і ў такім стане, і жывот схапіла. Пасля ў мяне яшчэ быў страх нават пагуляць. Ясна, што нічога жахлівага не здарылася – вярнуўся цэлы, здаровы, але зноў развітацца няпроста. Маральна было цяжка, што нічога не ведаеш пра яго, не можаш пазваніць свайму роднаму чалавеку ў сваім жа горадзе ў той час, як можаш па відэа з іншымі краінамі звязвацца. У судзе ўбачыла, што цэлы, ну нармальна. Было страшна, што біць будуць.

– Затрымліваў Туровіч, ён прадставіўся, – прыгадвае Яраслаў. – Адвезлі ў аддзел. Далі паперу падпісаць, што абяцаю больш не парушаць правапарадак. Кажу, «больш» давайце закрэслім, бо так я нібыта пагаджаюся, што парушаў. Са мной у адзін вечар затрымалі і **Дзяніса Еніна**. На наступны дзень спачатку быў яго суд, а я чакаў чаргі. Міліцыянер са мной размаўляе, кажа, што бачыў, што мы, дурныя, лезем проста так, а там былі правакатары, якія працуюць за грошы. Нібыта гэты правакатар ходзіць кругамі, а як натоўп сціхае, заходзіць у цэнтр, крыкне: «Жыве Беларусь!» і раскачагарвае натоўп.

– У міліцыі мне пра суд нічога не сказалі, у судзе нічога не вывесілі, – дадае Настасся. – Пасля людзі пачалі пад судом збірацца, то паведамілі, калі пасяджэнне.

– І вось Енін выходзіць з суда, садзіцца на лаўку, – працягвае Яраслаў. – А хутка будзе маё пасяджэнне, да мяне куча людзей прыйшла.

**Па словах Еніна, тады міліцыянер яму сказаў пра мяне: бачыш, да яго і журналісты прыйшлі, і адвакат, ён праплачаны, а ты, дурань, палез ні за што.**

У ізалятары Сталевіча пасадзілі разам з Еніным.

– Калі сядзеў, сваякі з Мінска піцу заказвалі для цяжарнай жонкі. Першыя суткі былі без чаю, без нічога адсядзелі. Пасля да нас падсадзілі бывалага, не дасядзеў суткі. Ён з торбамі зайшоў з кілбасой, вермішэллю, частаваў усім. З чаем весялей было. У ізалятары чытаў «Як быць стоікам». Яшчэ Насця перадала «Граф Монтэ-Крыста», але яе больш Енін чытаў.

– Бабулі ў гэты час мне вельмі дапамагалі з дзеткамі. Мая мама казала, што як убачылі калегу-рэаніматолага, якога сілавікі збілі на плошчы ў Маладзечне, то вельмі спалохалася. А як Ярыка забралі, абурылася. Нас усе падтрымлівалі, і гэта вельмі дапамагло.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews @rh.by
(8-033) 66-719-77




Фота Сяргея ПЛЮТО.

Смаргонцы занялі шостае месца ў першай лізе ў мінулым сезоне.

# «Смаргонь» можа згуляць у вышэйшай лізе

**Футбольная «Смаргонь» можа згуляць у вышэйшай лізе замест «Крумкачоў», якія спрабуюць дамагчыся пуцёўкі са снежня. Аб гэтым паведамляе выданне Football.by.**

### «Смаргонь» – адзіны варыянт, які задавальняе федэрацыю

Па інфармацыі Football.by, федэрацыя футбола Беларусі разглядала тры каманды замест «Крумкачоў» у вышэйшую лігу. Гэтыя каманды – дзяржынскі «Арсенал», гомельскі «Лакаматыў» і «Смаргонь». Гомельскую каманду ў федэрацыі выключылі адразу, бо яны не імкнуліся ў вышэйшую лігу, туды яны б не трапілі праз некалькі юрыдычных нюансаў. «Арсенал» адмовіўся ад месца ў вышэйшай лізе сам.

Таму, паведамляе Football.by, адзіным варыянтам, які задавальняе федэрацыю, застаецца «Смаргонь».

Генеральны сакратар федэрацыі футбола **Сяргей Жардзецкі** пацвердзіў, што «Смаргонь» падала заяўку на ўдзел у вышэйшай лізе на наступны сезон. Рашэнне аб удзеле смаргонскай каманды будзе прымаць выканкам федэрацыі.

### Чаму не «Крумкачы»

«Крумкачы» занялі трэцяе месца ў мінулым розыгрышы першай лігі. Клуб саступіў дзве пуцёўкі ў вышэйшую лігу рэчыцкаму «Спадарожніку» і «Гомелю». У пераходных матчах «Крумкачы» саступілі ў дзвюх гульнях «Слуцку». На вынік першай гульні яны падалі пратэст, бо ў ім нібыта ўдзельнічалі дыскваліфікаваныя футбалісты.

Рэгламент федэрацыі футбола не даваў дакладнай інтэрпрэтацыі правіл пераходу жоўтых і чырвоных картак з чэмпіянату на стыкавыя гульні.

Паводле федэрацыі, «Крумкі» не могуць гуляць у вышэйшай лізе згодна са спартыўным прынцыпам.

Аднак пасля з'явілася інфармацыя пра расфарміраванне «Гарадзеі». Значыць, у элітным дывізіёне ёсць месца для яшчэ адной каманды і варыянт для «Крумкачоў». У гэтым выпадку федэрацыя футбола адмовіла ўсё роўна, бо, па меркаванні арганізацыі, «Крумкачы» страцілі магчымасць пераходу ва ўсё тых жа гульнях са «Слуцкам».

**Паводле Football.by.**

## Упаўнаважаны па правах чалавека ў Расіі звярнуўся ў органы па справе Кудзіна

Фонд спартыўнай салідарнасці атрымаў адказ ад Апарата Упаўнаважанага па правах чалавека ў Расійскай федэрацыі па справе Кудзіна.

– У сувязі з тым, што Вы ўказваеце ў звароце на магчымасць палітычна матываванага крымінальнага пераследавання А. Кудзіна ў Рэспубліцы Беларусь і пагрозу фізічнай расправы з ім, уяўляецца магчымым зварот А. Кудзіна ў кампетэнтныя органы РФ з хадайніцтвам аб прызнанні яго бежанцам альбо аб прапанове часовага прытулку ў Расійскай федэрацыі.

У лісце таксама паведамілі, што апарат накіраваў ва Упраўленне па пытаннях міграцыі Галоўнага ўпраўлення МУС Расіі па Маскве хадайніцтва аб разглядзе пытання прапановы Аляксею Кудзіну часовага прытулку ў Расіі. І рэкамендавалі Кудзіну самастойна звярнуцца ва Упраўленне з заявай аб атрыманні часовага прытулку ў Расіі, у якім «падрабязна выкласці падставы яго перасцярогі стаць ахвярай пераследавання ў Рэспубліцы Беларусь».

Нагадаем, што 21 студзеня Аляксея Кудзіна затрымалі ў Маскве па запыце беларускіх уладаў. Чакаецца, што да 1 сакавіка будзе вырашанае пытанне аб экстрадыцыі ў Беларусь. Кудзін ужо напісаў зварот з просьбай даць палітычны прытулак у Расіі.

**Паводле Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці.**

## Фазэль хацеў перанесці ЧС-2021 у Піцер, Мінск атрымаў бы матчы ЧС-2023

Аўтарытэтнае фінскае выданне Helsingin Sanomat падзялілася інфармацыяй пра тое, што матчы чэмпіянату свету-2023 маглі прайсці ў Мінску.

– У прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі хакея **Рэнэ Фазэля** быў сакрэтны план па пераносе чэмпіянату свету-2021. Турнір павінны былі перанесці з Мінска ў Санкт-Пецярбург – гэта пацвердзіў віцэ-прэзідэнт Міжнароднай хакей федэрацыі **Калерва Кумола**, якому Фазэль даў план у ходзе двухбаковага абмеркавання.

> **Ідэя была ў тым, што адбываецца абмен: Пецярбург прымае матчы ЧС-2021, а Мінск атрымаў бы гульні ЧС-2023.**

План праваліўся, бо Расіі забаранілі прымаць міжнародныя турніры з-за масавага допінгу і рашэння спартыўнага арбітражнага суда. А гэта забарона будзе дзейнічаць да 2022 года.

**Паводле Helsingin Sanomat.**

## Беларуска ўзяла бронзу ў спрынце на чэмпіянаце свету па біятлоне

Нарвежская біятланістка **Цірыль Экхоф** выйграла спрынт на чэмпіянаце свету па біятлоне ў славенскай Паклюцы. Другое месца заняла француженка **Анаіс Шэвалье**. Беларуская біятланістка **Ганна Сола** выйграла бронзу.

> **Гэта першы медаль у кар'еры спартсменкі на такім узроўні.**

Сола – адзіная біятланістка зборнай, якая не падпісала праўладны ліст спартсменаў.

**Паводле «Трыбуны».**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Частка збудавання, якая служыць асновай.
4. Дзелавая, сяброўская сувязь.
5. У рэлігійным вучэнні пасланец Бога.
8. Стан крайняй стомленасці, страты сілы.
9. Максім Танк: «Было змрочна Ў Сусьвеце, Пакуль ты не паклала ... На мае вочы.
10. Аператыўныя дзеянні, звязаныя з выяўленнем і пошукамі злачынцаў; следства.
11. Да творчасці гэтага беларускага мастака чыноўнікі ставіліся як да нявартай увагі. Адзін полацкі чыноўнік загадаў замаляваць унікальны роспіс сталоўкі ў Лужках, зроблены гэтым творцам.
12. Харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак.
14. Змрочны бок чаго-небудзь; безвыходнасць.
15. Прыстасаванне для рэгулявання сілы гуку ў музычных клавішных інструментах.
16. Звесткі аб чым-небудзь, дадзеныя ці атрыманыя ў адказ на запытанне.
17. Паслядоўны спіс, пералік з указаннем даных адносна таго, што пералічваецца.
21. Сукупнасць навакольных умоў; акружэнне.
23. Цела, якое мае ўласцівасць прыцягваць да сябе жалезныя, стальныя або адштурхоўваць некаторыя іншыя прадметы.
24. Тайнае пагадненне некалькіх асоб аб сумесных дзеяннях супраць каго-небудзь, чаго-небудзь для дасягнення пэўных палітычных мэт.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Установа, дзе па рэцэптах дактароў робяцца і адпускаюцца лекі.
3. Старажытная прылада, якой разбівалі крапасныя сцены і якая мела выгляд бервяна з металічным наканечнікам, прымацаваным ланцугамі на перасовачнай вежы.
5. Земнаводная жывёліна, лічынкі якой дыхаюць жабрамі, а дарослыя асобіны – лёгкімі.
6. Нябеснае цела, якое па сваёй прыродзе падобнае да Сонца і ўяўляецца чалавеку на начным небе зззяючай кропкай.
7. Драўляная, крыху звужаная да верху пасудзіна з прамых клёпак (для замешвання цеста, салення).
8. Шырокае палотнішча, якое закрывае сцэну ад глядзельнай залы.
10. Адкрытая або зашклёная тэраса ўздоўж сцяны дома.
11. Танцавальны вечар пад музыку.
13. Рагавое ніткападобнае валакно на скуры чалавека і жывёл.
14. Невялікі мяшок.
18. Узнаўленне сродкамі мастацтва вонкавага, пачуццёва-канкрэтнага аблічча з'яў рэчаіснасці.
19. Цар, кароль, імператар, шах, султан.
20. Злепак, мадэль прадмета ў натуральную велічыню.
22. Адзінка вылічэння часу ад панядзелка да наступнай нядзелі ўключна.

## Адказы на крыжаванку з №7

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Увага. 3. Фантан. 4. Фаланга. 7. Суша. 8. Узор. 9. Люты. 10. Умова. 11. Сядло. 14. Лінза. 15. Сэрца. 16. Цацка. 17. Эмінем. 19. Цвярозы. 21. Лякала.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Удава. 4. Фальш. 5. Фактар. 6. Цела. 7. Сход. 8. Улоў. 11. Сэнс. 12. Ціха. 13. Фобія. 15. Суаднosіны. 18. Зебра. 20. Вера.

## ● ГАРАСКОП НА 19-25 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Панядзелак і аўторак выдатна падыходзяць для хуткіх спраў, фізічнай працы, калектыўных мерапрыемстваў. Улічыце, што навакольныя таксама настроеныя на хуткія вынікі, але мець справу добра толькі з тымі, з кім вы ўжо спрацаваліся.



**ЦЯЛЕЦ.** Выкарыстоўвайце нечаканыя магчымасці пашырыць сферу свайго ўплыву, палепшыць кар'еру, абзавесціся карыснымі сувязямі. У панядзелак і аўторак трэба праявіць напор і рашучасць. У сераду сачыце за бяспекай.



**БЛІЗНЯТЫ.** Гэтыя дні добра выкарыстоўваць для перамоў і дзелавых кантактаў. Выдатна будзе ісці калектыўная праца. На рабоце трэба будзе выблытвацца са складаных сітуацый, але рашэнні могуць знайсціся неардынарныя і карысныя. Выхадныя спрыяльныя для любой дзейнасці.



**РАК.** Вам трэба будзе ўзяць пад кантроль фінансавыя пытанні ў сям'і. Не ўсё будзе проста ў адносінах з блізкімі, але прыйдзецца заклікаць усіх да парадку, каб сямейнае жыццё не выйшла з берагоў. У сераду і чацвер у калектыве магчымыя рознагалоссі.



**ЛЕЎ.** Не ўсе праблемы цяпер маюць хуткія рашэнні. Не варта глядзець па баках, спрачацца і азірацца на свае мінулыя поспехі.



**ДЗЕВА.** У сераду любая тэма можа атрымаць развіццё. Не правакуйце канкурэнтаў на актыўнасць і менш кажыце пра свае дасягненні. Пазбягайце авантур і рабіце тое, у чым добра разбіраецеся.



**ШАЛІ.** Разлічвайце на свае сілы ў любой справе. Упэўненасць у сабе прынясе вам поспех. У сераду небяспечны момант для адносін, асабліва, калі ўсплыве тэма грошай. Сачыце за парадкам у доме і хутка ліквідуйце праблемы.



**СКАРПІЁН.** У вас будзе шмат арыгінальных ідэй і прапаноў, якія ў панядзелак карысна абмеркаваць з калегамі. Магчыма, вы будзеце азартныя і неасцярожныя ў сваіх намерах і выказваннях. Галоўнае, улічыць тое, з кім маеце справу. У выхадныя для адпачынку пажадана змяніць абстаноўку.



**СТРАЛЕЦ.** Думайце аб бягучых справах і не давзваляйце фантазіям надоўга адцягваць вас. Панядзелак і аўторак запатрабуюць арганізатарскіх здольнасцяў. Серада – непрадказальны дзень.



**КАЗЯРОГ.** Асабліва ўдала будуць складвацца кантакты з каханымі. Калі ўзнікне праблема, з якой вы яшчэ ніколі не сутыкаліся, надайце ёй максімум увагі. Магчыма, разбіраючыся з ёй, вы вырашыце і іншыя важныя пытанні.



**ВАДАЛЕЙ.** У панядзелак і аўторак зрабіце так шмат, як можаце. У кантактах з начальствам лепш не мець пасярэднікаў і даваць справаздачу аб праведзенай працы сам-насам. Прасоўвайце свае напрацоўкі, абмяркоўвайце ідэі з тымі, хто можа быць вам карысны.



**РЫБЫ.** Таемны вораг паспрабуе нанесці ўдар, але сам апынецца ў нявыгадным становішчы. У панядзелак і аўторак добра займацца справамі, якія абяцаюць хуткі поспех, яшчэ лепш – прыбытак. Беражыце кашалёк, ключы і паролі. У чацвер не зблытайце эмоцыі з інтуіцыяй.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | 6 | | | 5 | 4 | |
| | | | 9 | 5 | 7 | 6 | | |
| 5 | | | 8 | 4 | | | 1 | |
| | | 8 | 7 | | 9 | | 3 | |
| | | | 3 | | | 8 | 2 | |
| | 7 | | | | 2 | | | 6 |
| 6 | | 2 | | | | | 9 | |
| | 1 | | | 9 | | | | |
| | | | 1 | 3 | | | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Палітыка

**– На вашу думку, што такое палітыка? – з гэтым пытаннем мяне спыніла маладзенькая дзяўчына.**



Маладзечна. Адна са жнівеньскіх акцый на Цэнтральнай плошчы.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

– Гэта жыццё, – не паспеўшы задумацца, я агучыў тое, што першае прыйшло ў галаву.

– «Рэгіянальная газета». Мы праводзім апытанне, можаце паўтарыць гэта ў камеру? – папрасіла суразмоўца, і яе напарнік навёў на мяне гаджэт для запісу.

Выканаўшы працу, яны адышлі таксама хутка, як і з'явіліся, пакінуўшы мяне адnaго са сваімі думкамі. Сапраўды, што такое палітыка? У перакладзе са старажытнагрэчаскай – «Дзяржаўныя і грамадскія справы». Напамін пра яе выклікае калі не страх, то, як мінімум, насцярожанасць. Я, як электрык, праводжу аналогію з электрычнасцю – «Не лезь – заб'е!».

А без электрычнасці ўсё абсталяванне ператворыцца ў бескарысную інсталяцыю. Электрычнасць і палітыка нябачныя і небяспечныя, але жыццёва неабходныя. Каб займацца тым ці іншым, патрэбныя досвед і веды. Калі спусціцца з вышынь дзяржаўных да асобы простага абывацеля, то і тут ёсць палітыка ў выглядзе дзейнасці, накіраванай на дасягненне ўласных інтарэсаў у любой галіне.

Я вяртаюся да свайго адказу, дзе быў блізкі да праўды, але не зусім. Дык што такое палітыка?

**Канстанцін МАЙСЕВІЧ, Маладзечна.**

## Чытайце праз тыдзень:

**Завяршаем публікаваць дзённікавыя запісы вязня Вілейскай турмы – жыхара Паставаў Юзафа Кішкурны, які сядзеў тут па сфабрыкаванай справе ў 1940-1941 гадах.**

## 20 лютага, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -25,3°С у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +5,8°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,6 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Калі пачалі размаўляць на трасянцы?



**Антон, Маладзечна:**
– Думаю, гэта пачалося пасля актыўнага распаўсюджвання рускай мовы ў беларускіх гарадах.



**Віталія, Вілейка:**
– На трасянцы пачалі размаўляць, калі руская і беларуская мовы атрымалі статус дзяржаўных.



**Станіслаў, Вілейка:**
– Я не лінгвіст. Не зусім добра разумею сам тэрмін «трасянка». Размаўляю на мове, што вывучаў у школе. Магчыма, нешта ўзяў з твораў нашых беларускіх пісьменнікаў. Лічу, што лепш размаўляць на любым дыялекце беларускім, чым на расійскай.



**Галіна, Маладзечна:**
– У 1945-1946 гады.



**Уладзімір, Алёхнавічы, Маладзечанскі раён:**
– Лічу, што ў канцы 18 стагоддзя ў перыяд уваходу Беларусі ў склад Расійскай імперыі. І ў далейшым з наступленнем савецкага перыяду станаўлення і развіцця БССР.



**Дана, Вілейка:**
– У нас у вёсцы, колькі я памятаю, усе так размаўлялі.

**Падрыхтавалі Настасся УТКІНА і Аксана ЯРАШОНАК.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1347) 19.02.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 283. Падпісана ў друк у 9.00 18.02.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.